



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

27 кастрычніка 2017 года №43 (1174)




# У Вілейцы урачыста адкрылі стадыён

Але не толькі сучасны спартыўны комплекс неабходны для перамог вілейскіх футбалістаў, перакананы капітан каманды "Вілія" Віталь Кулеш.



старонка 5

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

НАВІНЫ

## Бізнес-праекты жыхароў рэгіёна атрымліваюць фінансаванне

АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ, МЯДЗЕЛ

Другі і трэці набор слухачоў Школы сельскага бізнесу ў Камарове пачаў навучанне. Вучыцца і ўдзельнічаць у конкурсе на атрыманне фінансавай падтрымкі бізнес-праектаў могуць жыхары Мядзельскага, Смаргонскага, Астравецкага і Пастаўскага раёнаў.

30 верасня слухачы першага набору закончылі навучанне і прэзентавалі праекты. Журы з 12 абрала 4 ідэі, на рэалізацыю якіх выдаткуюць ад дзвюх да 10 тысяч еўра.

**Аляксандра Чыжэўская** з Залесся плануе адкрыць вытворчасць экалагічных драўляных вокнаў. Яе аднавяскоўка **Вераніка Шчуроўская** збіраецца рабіць тавары з вышыўкай. **Людміла Стручко** з Трокеляў Астравецкага раёна шые адзенне на заказ для аднавяскоўцаў.

Праект школы ў Камарове фінансуецца Еўрапейскім саюзам, паведамляе таварыства "Экапартнёрства".

## Выберуць лепшых повараў, кандытараў, афіцыянтаў

АШМЯНЫ

31 абласны конкурс-семінар повараў, кандытараў і афіцыянтаў праводзяць сярод арганізацый спажывецкай кааперацыі 26-27 кастрычніка ў рэстаране "Імперыя".

Сярод повараў правядуць кулінарны паядынак па прынцыпе чорнай скрыні.

Афіцыянты таксама пазмагаюцца ў намінацыі "Кэндзі-бар" і працы ў вячэрні час, за званне "Лепшы барыста".

Пра гэта расказала начальнік аддзела грамадскага харчавання Гродзенскай абласной спажывецкай кааперацыі **Ларыса Барадзіч**.

## Маладзечанец перамог на конкурсе "Ветэранскі гармонік"

МАЛАДЗЕЧНА

У рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў у Мінску 18 кастрычніка адбыўся заключны этап фестывалю-конкурсу "Ветэранскі гармонік".

Першае месца заняў прадстаўнік Маладзечанскай раённай арганізацыі ветэранаў **Барыс Харэвіч**, паведамляе Мінскае абласное аб'яднанне прафсаюзаў.

Пра творчасць і поспехі Барыса Харэвіча на розных фестывалях "РГ" пісала неаднойчы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вясной у Вілейцы здымуць кліп

ВІЛЕЙКА

Вясной вілейскі танцавальны калектыў "Фарсаж" плануе зняць кліп, распавяла кіраўнік гурта **Алеся Радзялоўская**.

– Гэта, канешне, не будзе прафесійны кліп за некалькі тысяч долараў, – распавядае Алеся. – Хутчэй, справаздача пра нашу працу.

Па яе словах, у здымках задзейнічаюць усіх удзельнікаў калектыву: і дзяцей, і дарослых. Прадставяць два любімыя танцавальныя накірункі калектыву: хіп-хоп і ўсходнія танцы.

Цяпер Алеся Радзялоўская шукае музыканта, які б змог агучыць кліп музыкай у стылі хіп-хоп.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Сакаўшчынскае вадасховішча запусцілі амура, шчупака і карпа

ВАЛОЖЫН

У вадаёмы Міншчыны засялілі каля 7,5 тоны рыбы, расказалі ва ўпраўленні палявання і рыбалоўства Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

У Сакаўшчынскае вадасховішча выпусцілі 2,75 тоны розных відаў рыбы: 5,5 тысячы асобін белага амура, 2,2 тысячы шчупака і 1,4 тысячы карпа.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Смаргоні сталі выпускаць мікрааўтобусы

СМАРГОНЬ

У Смаргоні пачалі выпускаць мікрааўтобусы. Пераабсталяваннем фургонаў у аўтобусы занялося прадпрыемства "ПрактыкСэрвіс".

Для гэтага закупляюць новыя аўтамабілі ў мясцовых дылераў замежных аўтакампаній.

– Заказчыкі розныя, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" дырэктар прадпрыемства **Павел Шыркавец**. – Для таго, хто замаўляе мікрааўтобус, мы пачынаем рабіць пераабсталяванне. Фургон пераўтвараецца ў салон, усталёўваюцца крэслы, вокны, люкі, асвятленне і ацяпленне, парэнчы і прыступка для зручнай пасадкі пасажыраў.

Пераабсталяваныя аўтамабілі праходзяць выпрабаванні на палігоне сертыфікацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Жалюзі, ці пісьмовы зварот у электрасеткі

## Як засцерагчыся ад светлавога забруджвання

МАЛАДЗЕЧНА

**Ці вядома вам што-небудзь пра светлавое забруджванне? З такім пытаннем звярнуўся ў рэдакцыю чытач маладзечанец Міхаіл Канстанцінавіч і падзяліўся сваёй праблемай.**


Фота Qualigence.com

Ад светлавога забруджвання засцерагуць жалюзі.

Наш чытач жыве на вуліцы Драздовіча ў шматкватэрным доме №5 на восьмым паверсе, недалёка ад тэрыторыі Маладзечанскіх электрасетак. Міхаіл Канстанцінавіч кажа, што яму і астатнім жыхарам дома ноччу перашкаджае спаць вялікі пражэктар, што стаіць на тэрыторыі электрасетак.

Наколькі шкоднае светлавое забруджванне і што могуць зрабіць жыхары дома? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся ў Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Па словах доктара-гігіеніста **Міхаіла Міхалевіча**, супрацоўнікам цэнтра вядомая праблема Міхаіла Канстанцінавіча.

Светлавое забруджванне, па словах Міхаіла Міхайлавіча, найбольш актуальнае для заходнееўрапейскіх краін і нашых буйных гарадоў.

– Калі глядзець на фотаздымкі зямлі з космасу ў начны час, – кажа Міхаіл Міхайлавіч, – краіны Заходняй Еўропы, а таксама Японія, ЗША з-за высокай колькасці штучнага святла выглядаюць, як яркая светлавая пляма.

Доктар кажа, што калі ў краіны з вялікім узроўнем светлавога забруджвання прыязджаюць людзі, яны там дрэнна засынаюць і ад гэтага хутчэй стамляюцца. Вялікая колькасць штучнага святла ноччу парушае біялагічныя рытмы чалавека. Такія ж нязручнасці людзі адчуваюць, калі прыязджаюць у Запаляр'е ў час палярнага дня.

Гігіеністы Расіі займаюцца гэтым пытаннем, там ёсць методыкі вымярэння светлавога забруджвання па вертыкалі. У Беларусі пакуль падобнага заканадаўства няма. Аднак ёсць шэраг тэхнічных нарматыўных актаў.

Напрыклад, Кодэкс "ТКП 45-4.04-287-213" "Вонкавае асвятленне гарадоў, пасёлкаў і іншых населеных пунктаў", зацверджаны Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь у 2013 годзе. Там гаворыцца пра тое, што калі ўстанаўліваюць нейкія асвятляльныя аб'екты на дамах, нельга каб іх святло падала ў вокны жылых памяшканняў.

Каб пазбегнуць светлавога забруджвання, у жыхароў дома ёсць два выйсці. Першае – за ўласны кошт набыць добрыя жалюзі ці ральшторы, якія не дадуць святлу пранікнуць у кватэру.

Другое – пісьмова звярнуцца да кіраўніцтва электрасетак з просьбай устанавіць экраны ці іншыя прыстасаванні на пражэктар на тэрыторыі прадпрыемства.

– У электрасетках працуюць вельмі кваліфікаваныя спецыялісты, – лічыць Міхаіл Міхайлавіч, – там ёсць сваё праектнае бюро. Думаю, спецыялісты змогуць зрабіць усё, каб святло не засвечвала вокны жыхароў дома.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Пайшла з жыцця галоўны доктар Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы Таццяна Шамодзі

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, што 18 кастрычніка не стала Таццяны Шамодзі, "Рэгіянальнай газеце" расказаў выканальнік абавязкаў галоўнага доктара Іван Лужынскі.**



– Таццяны Пятроўны не стала 18 кастрычніка. Яна доўга змагалася з хваробай. Ёй было толькі 49 гадоў. Гэта, безумоўна, цяжкая страта, па-першае, для сваякоў і для нас, яе калег. Цяжка перадаць словамі, што мы ўсе цяпер адчуваем. Я прыношу свае спачуванні яе родным і блізкім.

Таццяна Шамодзі закончыла медыцынскі інстытут у 1994 годзе. Працавала ўчастковым педыятрам, доктарам-рэабілітолагам, загадчыцай дзіцячай палілінікі, была намесніцай галоўнага доктара па дзяцінстве і рададапамозе цэнтральнай раённай бальніцы.

Ад 2014 года – галоўны доктар Маладзечанскай ЦРБ.

Была прызнаная Чалавекам года Міншчыны ў 2011 годзе.

У Таццяны Шамодзі застаўся дарослы сын. Ён студэнт медыцынскага ўніверсітэта.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае сям'і Таццяны Шамодзі шчырыя спачуванні.

**Калектыў "РГ".**

### У ЦРБ пакуль няма выканальніка абавязкаў галоўнага доктара

Пасада галоўнага доктара цэнтральнай раённай бальніцы пакуль вакантная.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы **Таццяна Шафаловіч**.

– Цяпер абавязкі галоўнага доктара выконвае **Іван Лужынскі**, але ён у адпачынку. Таму калі трэба тэрмінова вырашаць якое-небудзь пытанне, то вам дапаможа намеснік выканальніка абавязкаў **Уладзімір Сымановіч**.

Хто ўзначаліць ЦБР, пакуль невядома.

– Трэба спачатку ўсё ўзгадніць. Як толькі будзе вядома, хто стане галоўным доктарам, усё раскажу, гэту інфармацыю не схаваю, – адказала Таццяна Шафаловіч.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Наталлі ТУР.

Жыхарам вуліцы Забэйды-Суміцкага па начах не дае спаць сігналізацыя машыны, якая паркуецца за домам.

# Здарылася няшчасце. Сусед купіў машыну

МАЛАДЗЕЧНА

> **“Або здарылася няшчасце – сусед па доме купіў старэнькую машыну, і яна кожную ноч раве сігналізацыяй, міргае фарамі, кожную ноч!”**

Цытата з музычнай кампазіцыі “Настрой палепшыўся” **Яўгена Грышкаўца** як нельга лепей перадае настрой жыхароў дома па вуліцы Забэйды-Суміцкага. Яны некалькі разоў за ноч прачынаюцца ад таго, што раве сігналізацыя на старэнькім “Фольксвагене” суседа.

– Ды каб жа на гэту машыну хто квапіўся, – узрушаецца жыхар дома **Алег Акушка**. – А то праедзе машына або скокне кот на капот, а машына ўжо заліваецца выццём. За ноч даводзіцца прачынацца разы чатыры.

На просьбу зрабіць нешта, гаспадар “Фольксвагена” адказвае:

– І што вы мне зробіце? Такая сігналізацыя.

Аднак у міліцыі на гэты конт іншы аргумент. **Яўген Жылінскі**, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС, кажа:

– У любым выпадку міліцыю трэба выклікаць. Міліцыянеры на месцы разбяруцца ў сітуацыі. Канешне, гэта не справа, калі сігналізацыя перашкаджае спаць жыхарам цэлага дома. І трэба разабрацца, у чым прычына такіх паводзін гаспадара машыны. Калі ён ведае, што сігналізацыя няспраўная і працягвае ставіць машыну пад вокнамі, гэта можа быць расцэненае як хуліганства. Але, паўтаруся, ва ўсім трэба разбірацца на месцы.

Стан жыхароў вуліцы Забэйды-Суміцкага выдатна апісвае той жа пісьменнік Грышкавец: “І ты цэлы месяц не спіш, худнееш, нервуешся, хварэеш. Але раптам – цэлая ноч у цішыні, і наступная ноч – цішыня, і цэлы тыдзень. І ты сустракаеш у двары суседа і пытаеш: “Слухай, нешта даўно не чуваць было тваёй машыны?” А ён кажа: “Дык, сволачы, скралі маю машыну!” А ты кажаш: “Ды ты што?! Ой-ой-ой!” А настрой у гэты момант палепшыўся”...

Вось каб не палепшыўся такім чынам настрой жыхароў Забэйды-Суміцкага, можа, варта ўсё ж адключыць сігналізацыю.

**Наталля ТУР.**

## У гімназіі будуць трапляць па прапісцы, а праграма стане аднолькавай са школьнай

**Гімназіі ў Беларусі зачыняць не будуць, але экзамены для паступлення туды пасля чацвертага класа адменяць.**

Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве адукацыі.

У гімназіі дзеці будуць трапляць па тэрытарыяльнай прыкмеце, гэта значыць, па прапісцы. Больш за тое, аж да старэйшай школы ў гімназіях і школах будзе аднолькавая праграма.

– Гімназіі зачыняцца не будуць, яны застануцца як установы адукацыі, – паведаміла прэс-сакратар Міністэрства адукацыі **Людміла Высоцкая**. – Але адмяняем экзамены пасля чацвертага класа. Уступных экзаменаў у пяты клас не будзе. Няхай людзі не марнуюць грошы і не рыхтуюцца. Нават цяпер **Васіль Іванавіч Жарко** (віцэ-прэм'ер Беларусі) сказаў: скажыце ўсім, што ніякіх экзаменаў пасля чацвертага класа не будзе, дзеці павінны мець аднолькавы доступ да атрымання адукацыі.

У Міністэрстве адукацыі дадаюць, што паступаць у гімназіі навучэнцы будуць па тэрытарыяльнай прыкмеце, гэта значыць, па прапісцы.

– А калі чалавек не прапісаны побач з гімназіяй, то як яму туды трапіць?

– А навошта “трапляць” у гімназію, калі ў школах і гімназіях будзе аднолькавая праграма?

У Мінадукацыі адзначаюць, што ад звычайных школ гімназіі будуць адрозніваცца праграмай пасля дзявятага класа. Пасля яго ж будзе і профільная адукацыя.

У Мінадукацыі адзначаюць, што міністр наконт гімназій ужо прыняў рашэнне, а пытанне адмены экзаменаў пасля чацвертага класа цяпер вырашаюць на заканадаўчым узроўні.

У міністэрстве адзначаюць, што навучальныя планы школ і гімназій ужо цяпер маюць мінімальныя адрозненні:

– У чым адрозненні навучальнага плана на 2017-2018 навучальныя гады ў гімназіях і школах? У гімназіях на вывучэнне замежнай мовы ў 5-9-х класах выдзяляецца пяць гадзін супраць трох гадзін у школах. І па матэматыцы ў 8-х і 9-х класах – 5 гадзін супраць 4-х гадзін у школах.

**Паводле tut.by**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.10 | 26.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9585 | **1,9557** |
| Еўра | 2,3030 | **2,3011** |
| Злоты, 10 | 5,4407 | **5,4351** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4180 | **3,3960** |
| Грыўня, 100 | 7,4108 | **7,3042** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **18.10** | **25.10** |
| Еўра | 2.2950/2.3100 | **2.2880/2.3030** |
| Долар ЗША | 1.9550/1.9650 | **1.9470/1.9590** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.10 | 25.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,18 | **3,10** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 0,70 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 2,95 | **3,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,35** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Гарбуз, 1 кг | 0,80-1,20 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,80 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | **1,60** |
| Морква, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 2,70 | **2,75** |
| Перац, 1 кг | 1,95 | **1,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,85 | **1,89** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Гранат, 1 кг | 4,45 | **4,00** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **-** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,95** |
| Хурма, 1 кг | 2,95 | **3,20** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,60 | **1,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | **7,00-8,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,80-3,00 | **2,80-3,00** |

НАВІНЫ

## Мужчына заступіўся за маці і да смерці збіў айчыма

**ВІЛЕЙКА**

22 кастрычніка пасля 23:00 у Вілейцы ў адной з кватэр знайшлі труп 48-гадовага мужчыны.

Памерлы быў гаспадаром кватэры, нідзе не працаваў.

Папярэдне ўстанавілі, што падчас ужывання спіртнога каля дзесяці вечара ў кватэры адбылася сварка. Як распавёў начальнік крымінальнай міліцыі **Аляксандр Лыско**, гаспадар кватэры пакрыўдзіў жанчыну, якая з ім жыла.

За жанчыну заступіўся яе 29-гадовы сын. Падазраюць, што ён моцна збіў крыўдзіцеля, ад чаго той памёр. Падазраванага затрымалі.

Аксана ЯРАШОНАК.

## З-за задымлення эвакуявалі больш за 300 школьнікаў

**СМАРГОНЬ**

Здарэнне адбылося 23 кастрычніка ў адной з сярэдніх школ Смаргоні.

Выратавальнікі атрымалі паведамленне пра загаранне ў электрашчытавой. Калі байцы МНС прыбылі на месца, у будынку было задымлена, школьнікі і персанал выйшлі на вуліцу.

Высветлілі, што была задымленая шахта і электрашчытавая на трэцім паверсе.

Да прыезду выратавальнікаў персанал вывеў са школы 471 чалавека, сярод іх 389 дзяцей.

З-за задымлення закураныя сцены ў шахце, пашкоджаная электраправодка ў электрашчытку. Меркаваная прычына здарэння – кароткае замыканне электраправодкі.

Паводле mchs.gov.by

## На двух жыхароў Вілейшчыны завялі справы за браканьерства

**ВІЛЕЙКА**

У верасні жыхар Вілейшчыны і яго госць са сталіцы незаконна лавілі рыбу на Вілейскім вадасховішчы.

Парушальнікі паспелі злавіць двух ляшчоў, але гэтага было дастаткова, каб распачаць адміністрацыйную справу. І тут высветлілася, што сёлета ў маі фігурантаў ужо каралі за браканьерства.

– У такім выпадку адміністрацыйная адказнасць пераходзіць у крымінальную, – кажа **Уладзімір Хіла**, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы прыроды.

Крыху пазней яшчэ аднаго віляйчаніна затрымалі з пяццю сеткамі і дзесяццю кілаграмамі рыбы. Паколькі сустрэча з інспектарамі ў яго была не першая, на мужчыну таксама завялі крымінальную справу.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Злодзей у Карпавічах скраў маёмасці амаль на дзве тысячы рублёў

**ВІЛЕЙКА**

У суботу, 21 кастрычніка, у міліцыю звярнуўся 48-гадовы жыхар Мінска. Паведаміў, што ў яго на лецішчы ў Карпавічах з гаража зніклі рэчы.

Невядомы злодзей узламаў замок у гаражы і вынес адтуль набор піл, прылады для рыбалкі, пражэктар, лямпачкі, разеткі. Знікла таксама бензапіла і ланцугі да яе. Страты ад крадзяжу – каля дзвюх тысяч рублёў.

У вілейскім РАСК мяркуюць, што рэчы скралі ў перыяд ад 15 да 18 кастрычніка.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Знайшлі 82-гадовую бабулю, якая заблудзіла ў лесе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пошукі бабулі працягваліся ў цяжкадаступным лясным масіве і пад дажджом.

Званок аб тым, што 82-гадовая бабуля заблудзіла ў лясным масіве каля Краснага, у дзяжурную часць РАУС паступіў познім вечарам 12 кастрычніка.

Начальнік аддзялення вышуковай работы Маладзечанскага РАУС **Юры Пятровіч** распавёў, што ў жанчыны быў мабільны тэлефон. Але з-за таго, што батарэя разраджалася, вызначыць яе месцазнаходжанне не атрымалася.

"Месца пошукаў у лесе аказалася цяжкадаступным: узгорыстая мясцовасць, вельмі густы лес, беспярапынны дождж, што ўскладняў пошукі чалавека", – распавёў Юры Пятровіч.

Пошукі працягваліся ўсю ноч і наступны дзень.

Адзін з супрацоўнікаў МНС трохі збіўся з курсу групы і заўважыў жанчыну. Яе знайшлі ў пяці кіламетрах ад садовага таварыства, у якім жыла.

Бабуля чула гукі сірэны, якую падаваў спецаўтамабіль МНС, крыкі людзей, але не магла адгукнуцца з-за ахрыплага голасу.

Пацярпелую медыкі адпусцілі дадому.

Паводле mlyn.by.

# Міліцыя наводзіць парадак на чыгунцы



Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Падчас акцыі пасажыры і мінакі задавалі пытанні міліцыянерам.

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Акцыю ў межах комплекснага мерапрыемства "Пасажыр" правялі супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў на транспарце ў пятніцу, 20 верасня.**

Інспектар прапаганды **Сяргей Васілеўскі** ўзброіўся памяткамі для пасажыраў чыгуначнага транспарту, а па дарозе да тых, для каго яны прызначаны, распавёў пра асноўныя праблемы на чыгунцы для транспартнай міліцыі:

– Часцей за ўсё злачынствы лёгка можна было б папярэдзіць, калі б людзі самі больш дбалі пра свае рэчы. Здараецца, што людзі ў зале чакання ставяць тэлефон на зарадку, самі ідуць у прыбіральню ці на вуліцу перакурыць. Вяртаюцца – ужо ні тэлефона, ні зараднага. Здаецца, бяры рэчы з сабой, але некаторыя вельмі даверлівыя, за што пасля плацяць маёмасцю. Іншая праблема – курэнне. Курыць можна толькі ў спецыяльных месцах, пазначаных шыльдай "Месца для курэння". Зловяць за намаляванай вакол астраўка лініяй – штраф. І ў ніяк не дабіцца, каб усе пераходзілі чыгунку толькі па насцілах. Ловім, штрафуем, – некаторыя разумеюць, абяцаюць больш так не рабіць, апраўдваюцца, што спазніліся ці не заўважылі. Іншым нічога не давядзеш.

> **Бывае, бабулі ледзь ногі перасоўваюць па дарозе, а па рэйках так гойсаюць, што не дагоніш, яшчэ і праз агароджы пералазяць! Ну, і як іх адвучыць?**

Падыходзім да першых удзельнікаў акцыі, якія сядзяць на лаўцы і чакаюць электрычкі. Інспектар расказвае пра тое, чаго ў чыгуначным транспарце рабіць нельга: "Піць, гуляць у азартныя гульні, курыць. Трэба падтрымліваць чысціню. А калі здарыцца непрыемнасць, скрадуць вашы рэчы, напрыклад, адразу звяртайцеся да нас". "З намі праблем дакладна не будзе. Не п'ём і не курым, не перажывайце", – адказваюць спрытныя жанчыны.

Насустрач ідуць двое падлеткаў і лузгаюць семкі. "Маладыя людзі, чаго смецім?" – звяртаецца міліцыянер. Хлопчыкі пачырванелі і спужана пацягнулі рукі семак у кішэні. "Мы праводзім акцыю "Пасажыр", раскажам вам пра правілы паводзін на чыгунцы". Хлопчыкі з палёгкай выслухалі інспектара і паабяцалі выконваць усе-усе парады.

Сталая жанчына заўважыла: "О, правільна, у цягніках трэба нарэшце навесці парадак, а то насмецяць, сесці няма куды".

Кампанія мужчын курыла на лаўках каля знака "Месца для курэння". Ад прыбліжэння міліцыянера яны крыху напружыліся, але інспектар супакоіў: "Усё правільна, тут зона для курэння. Курылі б вы на пару метраў далей – маглі б заплаціць штраф".

### Як не стаць ахвярай злачынства

Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Пасажыр" праходзіла ад 17 да 21 кастрычніка на тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага АУСТ. Мерапрыемства ладзілі для прафілактыкі крадзяжоў маёмасці і забеспячэння правапарадку на чыгунцы.

Каб не стаць ахвярай злачынства ў цягніку:

– каштоўныя рэчы захоўвайце пры сабе.

– не пакідайце рэчы без нагляду

– не перадавайце іх незнаёмым

– не выпівайце ў транспарце

– не давайце мабільны тэлефон незнаёмцам

– не спіце ў электрычцы ці цягніку, калі маеце пры сабе грошы ці каштоўныя рэчы.

Калі вы сталі ахвярай ці сведкай злачынства, своечасова звяртайцеся ў міліцыю па тэлефоне 102.

За распіванне алкаголю ў грамадскім месцы прадугледжаны штраф да 8 базавых велічынь (184 рублі). За крадзеж прадугледжаная крымінальная адказнасць, паводле якой можа быць прызначанае пакаранне ў выглядзе штрафу, выпраўленчых работ да двух гадоў, арышт да шасці месяцаў, абмежаванне ці пазбаўленне свабоды да трох год.

Зоя ХРУЦКАЯ.

# ДАІ праводзіць акцыю "Бяспечныя канікулы"

**На тэрыторыі Мінскай вобласці ад 23 кастрычніка да 7 лістапада праходзіць акцыя "Бяспечныя канікулы".**

У межах акцыі супрацоўнікі ДАІ выступаюць перад школьнікамі. Тлумачаць непаўналетнім правілы бяспечных паводзін на дарозе і ў транспарце, у дварах, правілы пераходу праезнай часткі па пешаходным пераходзе, недапушчальнасць выкарыстання пры гэтым мабільных тэлефонаў і іншых электронных прылад.

Асаблівая ўвага супрацоўнікаў ДАІ накіраваная на выяўленне і спыненне непаўналетнімі парушэнняў правілаў дарожнага руху. За парушэнне правілаў дзецьмі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуць бацькоў. Таксама падчас акцыі ДАІ звяртае асаблівую ўвагу на парушэнні кіроўцамі патрабаванняў п. 178 ПДР у частцы выкарыстання дзіцячых утрымальных прылад пры перавозцы дзяцей у аўтамабілі.

З пачатку года на тэрыторыі Маладзечанскага раёна адбыліся тры дарожна-транспартных здарэнні з удзелам непаўналетніх, у якіх трое дзяцей атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені цяжкасці.

Найбольш распаўсюджаныя памылкі пешаходаў, якія сталі прычынамі ДТЗ:

– пераход праз праезную частку па-за пешаходным пераходам;

– нечаканы выхад з-за транспартнага сродку або іншых перашкод, якія абмяжоўваюць агляднасць кіроўцу;

– гульня і свавольствы на праезнай частцы дарогі;

– знаходжанне без суправаджэння дарослых;

– адсутнасць флікера на верхняй вопратцы ў цёмны час сутак.

Самыя небяспечныя ў плане дарожных здарэнняў – гэта выхадныя дні і канікулярны час.

Памятаць аб Правілах дарожнага руху і быць уважлівымі павінны не толькі дзеці, але і іх бацькі. Бо часам менавіта дарослыя ствараюць небяспечныя сітуацыі для сябе і сваіх дзяцей.

Сяргей БАРТОШ,
інспектар
Маладзечанскай ДАІ.

ТЭМА НУМАРА

# На новых трыбунах вольных месцаў не было: у Вілейцы адкрылі стадыён

ВІЛЕЙКА

**25 кастрычніка ў Вілейцы ўрачыста адкрылі рэканструяваны гарадскі стадыён. Яго адкрыццё, па словах вядучых цырымоніі, стала самай важнай падзеяй года ў Вілейцы.**

Як распавядаў падчас рэканструкцыі "Рэгіянальнай газеце" **Алег Гаўрышчук**, намеснік начальніка аддзела адукацыі спорту і турызму райвыканкама, імкнуліся стварыць сучасны спартыўны комплекс.

На абноўленым стадыёне – сучасныя трыбуны з яркімі пластыкавымі сядзеннямі. Тут могуць размясціцца 730 балельшчыкаў.

На футбольным полі – новае пакрыццё. Падчас рэканструкцыі выдашалі, якое абраць лепш. Спыніліся на штучным.

Вакол поля зрабілі бегавыя дарожкі. Ёсць дзе пагуляць у валейбол і баскетбол. А на пляцоўцы для воркаўтынгу ўжо займаюцца хлопцы з суседняй першай школы. Кажуць, што на стадыёне пляцоўка для варкаўтынгу лепшая, чым у парку. Тая старая і амаль уся паламаная.

Адрамантавалі таксама адміністрацыйны будынак стадыёна. Тут размясціліся душавыя, раздзявалкі, пакой для суддзяў. Каля стадыёна зрабілі паркоўку.

У будаўніцтве дапамагалі вілейскія прадпрыемствы, добраўпарадкаваннем тэрыторыі займаліся навучэнцы вілейскага каледжа і вучні і педагогі спартыўных устаноў горада.

Па словах Алега Гаўрышчука, усе гараджане змогуць займацца спортам на стадыёне. Цяпер вызначаюць расклад работы.

Нягледзячы на халоднае кастрычніцкае надвор'е, новыя трыбуны былі запоўненыя. Прыйшлі гараджане, вучні мясцовых школ, спартсмены.

У святочным парадзе ў гонар адкрыцця стадыёна ўдзельнічалі выхаванцы спартыўных устаноў, спартсмены-ветэраны, актывісты грамадскага аб'яднання "ЗОВіК", аркестр і мажарэткі з дзіцячай школы мастацтваў, спартыўныя каманды, клубы і секцыі горада.

Вілейскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі таксама далучыўся да гарадскога свята.

– Мы вырашылі правесці акцыю "Вілейка – здаровы горад", – распавёў доктар-гігіеніст **Ягор Горбач**. – Будзем праводзіць анкетаванне пра тое, як людзі ставяцца да здаровага ладу жыцця. А ўдзельнікі атрымаюць налепкі. У адміністрацыйным будынку працуе наша медсястра, у якой можна памераць ціск і атрымаць парады пра тое, як захаваць здаровае сэрца.

### Футбаліст Аляксандр Шэры: вось каб яшчэ вялікую спартыўную залу

Аляксандра Шэрага з Ільі на адкрыццё запрасілі як спартсмена-ветэрана. Прыехаў паглядзець на свята і пагуляць на новым футбольным полі пасля афіцыйнай святочнай часткі.

– Свята шыкоўнае, – падзяліўся спартсмен. – Зрабілі шмат. Але ў Вілейцы па-ранейшаму няма вялікай спартыўнай залы, дзе маглі б праводзіць абласныя і рэспубліканскія спаборніцтвы па баскетболе і валейболе.

Па словах Аляксандра Шэрага, калі пачалі рэканструяваць стадыён, у спартсменаў была надзея, што недзе, магчыма, у адміністрацыйным будынку стадыёна, такая зала з'явіцца. Аднак стадыён рэканструявалі, а мара пакуль застаецца мараю.

– А што вы скажаце пра пакрыццё новага футбольнага поля: лепш штучнае або натуральнае?

– Як паглядзець. Штучнае пакрыццё больш простае. За ім не трэба вялікага догляду. Але яно ўсё ж крыху больш траўманебяспечнае, чым натуральнае. Газон з натуральнай травы мякчэйшы, і падаць на яго ў спартыўных шортах больш прыемна.

### Капітан футбольнай каманды "Вілія": не ведаю, ці дазволяць нам трэніравацца

Па словах капітана футбольнай каманды "Вілія" **Віталя Куляша**, каб не страціць форму, каманда трэніравалася на стадыёне першай школы ў Вілейцы.

Аднак цяпер, калі стадыён з'явіўся, спартсмены пакуль дакладна не ведаюць, ці будуць тут рэгулярна трэніравацца.

– Абласныя гульні дакладна будзем праводзіць на новым стадыёне, а вось наконт трэніровак пакуль не ведаем, – кажа Віталь. – Было б цудоўна, каб раз на тыдзень вілейскай футбольнай камандзе дазволілі тут трэніравацца.

І ўсё ж, на думку Віталя, сучасная прыгожая стадыёна для развіцця футбола ў горадзе недастаткова. Капітан ужо не раз ставіў пытанне пра тое, каб у Вілейцы адкрылі школу футбола ці хаця б аддзяленне пры спартыўнай школе, як, напрыклад, у Маладзечне.

– І вось тады, гадкоў праз дзесяць, мы зможам пабачыць вілейскіх зорак футбола, – лічыць Віталь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Госці свята занялі ўсе месцы на новых трыбунах.



Чырлідары зладзілі паказальнае выступленне.



Начальнік аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі Сяргей Паўлоўскі таксама ўдзельнічаў у парадзе.




Супрацоўнікі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі прапаноўвалі паўдзельнічаць у акцыі і памераць ціск.



Пляцоўка для варкаўтынга дзецям падабаецца.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Феліксу Феліксавічу КАРАСЕВІЧУ з вёскі Раеўшчына Маладзечанскага раёна**



Віншуем з 80-годдзем!
Мы табе жадаем кожны раз прачынацца з новымі сіламі і бодрасцю духу, сустракаць новы дзень з добрым настроем і добрымі ідэямі, збіраць за святочным сталом усіх родных і блізкіх людзей, ніколі не сумаваць і святкаваць шчасцем.
Няхай кожны дзень у тваім жыцці будзе шчаслівы і добры.

**Жонка, дочкі, зяць, сын, нявестка**

## ВІНШАВАНКА

**Феліксу Феліксавічу КАРАСЕВІЧУ з вёскі Раеўшчына Маладзечанскага раёна**



Дарагі дзядуля!
*80 лет – прекрасный возраст!*
*Сколько бодрости и сил!*
*Пожелать лишь остаётся*
*Чтобы ты здоровым был!*
*Статен, мудр и красив.*
*Неподвластен ты годам!*
*Будь и дальше моложавым*
*И таким же бодрячком!*
*Чтобы снова поздравляли*
*Через годик мы ещё.*

**Унукі і праўнучка.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2104, 1999 г.в., 1,6 бензін, 600 руб. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Ніва 2121, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 4703638.
- Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Фіят-Брава, 1997 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 9346173.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*




- Рызіна R17235/60 Nokian, чатыры штукі, зіма. Т. (8-029) 5519902.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Зубчастую рэйку да ГАЗ-66, рулявы механізм да КРАЗ, шыны, дыскі. Т. (8-029) 8588959.

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агул. плошча 21,5/12,2/5,2. Торг. Т. (8-0176) 778970, (8-029) 7558660.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 32194, (8-033) 6029250.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, д.2, кв. 15. Агульная плошча 31,5 кв.м, жылая – 17,5 кв.м. Агарод 2 соткі, вокны ПВХ, склеп. Т. Вэлком 1261673.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён "Гелянова". Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на першым паверсе, плошча 31,4/42,7, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 6188711.*
- 3-пакаёвая кватэра на 2 паверсе ў Мядзеле. Газавае ацяпленне, пластыкавыя вокны, нацяжная столь, рамонт у ванным пакоі, бойлер, душавая кабіна. Т. МТС (8-029) 2241522.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- Гараж ГБК-Ізбіна (каля АЗС), 4200 рублёў. Т. (8-029) 2375721.*
- Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сухкая падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Домік у вёсцы Снежкава Вілейскага раёна. Ёсць трактар і трохі недабудаваны гараж. Побач возера. Т. (8-01771) 26453, (8-033) 3309118.
- Садовы ўчастак у кааператыве "Брыльянт" у вёсцы Ласі, ад чыгуначнага прыпынку 1400 м. Блочны домік, хлеўчык (сарай), агарод, ягаднік – за невялікую цану. Т. (8-0176) 551631, (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*
- Здам пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

- Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Нізкія цэны. ІП Маців А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*
- Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў, марозільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ**, усе віды. ІП Рудаў Е.А. УНП 692014489 Т. (8-033) 6322069, (8-044) 7149989.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*
- Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Цэгла (кірпіч) шамотны, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072, (8-029) 8351640.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ** -5% в сентябре (8029) 762-78-98, 332-67-79. ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

- Распрадаецца мэбля б/у нядорага. Спальны гарнітур: шафа 3-створкавая з люстэркам, дзве тумбачкі прыложкавыя, двухспальны ложак, камод для бялізны. Можна паасобку. А таксама люстры, шторы, камін электрычны, столік раскладны на колцах, набор для ванны. Т. (8-029) 6870310.

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Козы пакрытыя, маладняк. Пеўнікі маладыя. Нядорага. Валожынскі раён. Т. Вэлком (8-029) 6433476.*
- Парасяты дамашнія. Т. (8-029) 7674127, (8-044) 7676327.*
- Цялушка для ўласнай гадоўлі, чорна-пярэстая, узрост 10 месяцаў. Т. (8-029) 9346173.

**Іншае**

- Збожжа трыцікале молатае. Т. (8-029) 8757061.*
- Збожжа фуражнае, 260 руб за 1 тону. Т. (8-029) 1853458.
- Інваліднае крэсла (актыўнага тыпу), педальны трэнажор "Mini Bike", цана дагаворная. Т. (8-029) 7772418, (8-01771) 76452.
- **КУРТКАМАНІЯ Ў МАГАЗІНЕ "АДЗЕННЕОПТ": КУРТКІ ад А да Я**, для ўсёй сям'і, асенняя ад 33 рублёў, а зімовыя ад 46 рублёў, таксама джынсы ад 26 рублёў, шкарпэткі 50 капеек, джэмперы і кардыганы ад 20 рублёў, шапкі ад 2 рублёў і іншае. г. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15-а ў "Доме быту". ІП Тарыма А.С. УНП 691899969
- Пілавінне, гарбыль (вольха) з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*
- Цыркулярка 350 мм, 220 : 380 V, стругаць і рэзаць. Т. (8-029) 1536728.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Быка, карову, цяля, кабана. Т. (8-029) 1205621, (8-025) 9672244.*
- Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

- Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Кнігі. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

### АДДАМ

- Мы шукаем добрых людзей! А вы добры чалавек? Упэўнены? Праверце сябе! Прыміце ў дар кацяня і выгадуйце! 5 месяцаў, самастойныя, прышчэпленыя. Могуць жыць у кватэры і прыватным доме. Вілейка. Т. МТС (8-029)8594711, (8-01771) 56059 (хатні).

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Кандытарская фабрыка "КОНФА" запрашае на работу ў Маладзечне прадаўца ў магазін і фірменныя павільёны Маладзечанскага рынку райспажыўтаварыства. УНП 600136817. Т. (8-0176) 743912, (8-029) 1774807 (з 8 да 17.00).

### ШУКАЮ РАБОТУ

- МАЗ, 5 тон, тэнт, 40 куб м. Т. (8-044) 7557072.*







# Навошта трэба вучыць дзяцей аптымізму

**Імкненне да поспеху, фізічнага і псіхалагічнага здароўя – вось тыя стымулы, дзеля якіх трэба самім навучыцца аптымізму і навучыць сваіх дзетак.**



Фота забяспечанае Марынай АЛЯШКЕВІЧ.

**Івана Аляшкевіча бацькі вучаць бачыць прыгажосць і глядзець на свет з аптымізмам.**

Таму неабходна авалодаць самакантролем за сваімі думкамі. Напрыклад, што вы думаеце ў выпадку, калі церпіце паражэнне, як самі сабе тлумачыце ўзнікшую праблему. Ёсць адрозненне ў тым, як гэта робяць песімісты і аптымісты.

Песімісты тлумачаць прычыны няўдач тым, што яны – няўдачнікі. Так было і будзе заўсёды, да чаго б яны не імкнуліся.

Аптымісты ж кажуць: "Ну што ж, так усё склалася, але гэта часовыя цяжкасці, у жыцці ж ёсць шмат іншых цікавых спраў".

Стыль тлумачэння – гэта звычка думаць, набытая яшчэ ў дзяцінстве і юнацтве. Ён залежыць ад адчування самога сябе як сімпатычнага і паспяховага ці няўдалага і безнадзейнага. Таму для ўпэўненасці ў сабе так важна навучыць нашых дзяцей гэтай карыснай якасці.

Дзіця ўбірае ўсё, што адбываецца вакол, як губка, з самага ранняга дзяцінства і пераймае нашы паводзіны, заражаецца нашымі эмоцыямі і свет бачыць "нашымі вачыма", бо ў яго няма іншага досведу, акрамя досведу бацькоў.

Учынкі дарослых часцей больш значныя, чым словы: сваімі паводзінамі, сваім выбарам у розных жыццёвых сітуацыях мы прапануем дзецям сваё адносіны да свету.

Першае, што можам зрабіць, – гэта быць спакойнымі і ўраўнаважанымі. Нават у тых выпадках, калі дзіця, толькі пачаўшы хадзіць, спрабуе ўсё пакратаць, дацягнуцца да ўсяго, усё схапіць.

Грубыя вокрыкі "Нельга!", "Не чапай!" могуць спалохаць, даць адчуванне, што свет небяспечны. А калі мама ўсміхаецца, спакойная, тады і дзіця адчувае сябе абароненым, у бяспецы і з цікавасцю працягвае даследаваць гэты свет.

Калі трохгодка заяўляе пра сябе "Я сам!", дайце яму магчымасць адчуць сябе самастойным. Не гасіце жадання вучыцца новаму, падтрымлівайце яго пахвальбой, калі ўсё атрымаецца. Звяртайце ўвагу на тое, што любую памылку можна выправіць.

Карысна знайсці пазітыўную фразу, якую можна ўвесь час паўтараць. Напрыклад, "у нас усё атрымаецца", "у любой праблемы ёсць рашэнне", "выйсце ёсць заўсёды". Гэтыя фразы адкладуцца ў досведзе дзіцяці і прыгадаюцца ў цяжкіх сітуацыях.

Неабходна знаходзіць час для зносін з дзецьмі, гаварыць з імі пра сваё і іх пачуцці і эмоцыі. Важна стварыць атмасферу даверу і падтрымкі, прымаць сваё дзіця любым, без усялякіх умоў.

Можна зрабіць традыцыяй нядзельныя абеды з усёй сям'ёй. І ў гэты час абмеркаваць з дзіцем як сваё, так і яго планы і мары. Усе гэта пазітыўна арыентуе дзіця ў жыцці, дапамагае праектаваць сваю будучыню. Ужывайце гумар у зносінах, гэта дапаможа пераадолець страхі і паглядзець на сітуацыю з іншага боку.

Навучыце дзіця параўноўваць сябе не з іншымі, а з самім сабой. Гэта дасць яму магчымасць паназіраць за тым, як з часам мяняецца яго сітуацыя, дадасць упэўненасці ў сабе.

Некаторыя бацькі пры невялікіх цяжкасцях у малога кідаюцца яму дапамагаць, выконваюць усе яго жаданні альбо ўсё робяць за яго. Гэта не лепшае выйсце. Надалей дзіця не зможа самастойна прымаць рашэнні, праяўляць ініцыятыву, будзе пастаянна патрабаваць дапамогі.

Часовыя цяжкасці дапамагаюць развіваць моцны дух не менш, чым поспех. Таму лепей для дзіцяці даць яму магчымасць перажыць гэтыя пачуцці няўмельства, няўдачы, каб потым маленькі чалавек змог ацаніць моц прыкладзеных намаганняў.

Верагодна, у дарослым жыцці дзеці падзякуюць за такую навуку. Гледзячы на сітуацыю з аптымізмам, яны змогуць змяніць сітуацыю да лепшага і дасягнуць поспехаў у жыцці.

**Алена ГЛАДКІХ,**
**псіхолаг дзіцячага сада №16 г. Маладзечна.**

## Аня і Віка не прапусцяць "Дзясятачку". А ты?

На гэтым тыдні "РГ" завітала ў маладзечанскую школу №14, каб расказаць пра акцыю, у якой любы вучань можа зарабіць планшэт.

Вучаніцы 6 "А" класа **Аня Грыдзюшка** і **Віка Валюкевіч** актыўна ўдзельнічалі ў акцыі ў мінулым годзе. Яны і сёлета старанна вучацца, а іх выдатныя адзнакі не толькі парадуюць бацькоў і ўпрыгожаць дзённік, але могуць зарабіць планшэт.

6 "А" настроены сур'ёзна: хлопчыкі і дзяўчынкі паабяцалі добра вучыцца, каб зарабіць паход у піцэрыю. Гэты прыз выйграе той клас, ад якога мы атрымаем больш за ўсё бланкаў. Планшэт атрымае вучань, які дашле бланкаў больш за ўсіх.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія падарункі. Аня і Віка атрымалі па блакноце і фірменнай ручцы газеты, а каб добра працаваў мозг – яшчэ і па шакаладцы.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№43)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
Школа_______________________________
4. Населены пункт_______________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка _________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка______________________



# Дасылайце фота на акцыю “Не губляй ніводнага дня”

**Да 1 лістапада мы працягваем прымаць вашы фотаздымкі на акцыю “Рэгіянальнай газеты” “Не губляй ніводнага дня”.**

Бачыце, засталося менш за тыдзень.

Таму, калі вы яшчэ не ўдзельнічалі, спяшайцеся стаць уладальнікам фотарамкі і іншых падарункаў ад “Рэгіянальнай газеты”.

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2017 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі раднаснымі момантамі гэтага года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак вялікі набор цукерак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары “РГ” на 2018 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, атрымае ў падарунак лічбавую фотарамку.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма “Рэгіянальнай газеты”, рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд, а аўтара ўзнагародзіць наборам фірменных сувеніраў ад “Рэгіянальнай газеты”. У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаныя ў нашых публікацыях.

6 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 13 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і напішыце некалькі сказаў пра сваё фота і сябе.

Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце “Не губляй ніводнага дня”.

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

А сёння мы прапануем вам фотаздымак, які ўжо даслаў **Яўген Буданаў**. На здымку ён падчас першай сустрэчы з дачушкай **Дыянкай.**

**Калектыў “Рэгіянальнай газеты”.**



## Удзельнічай у акцыі “РГ” і атрымай садовыя арэлі



**Калі ў руках усё спорыцца – чым гэта не падстава для гонару? Пахваліся сваімі здольнасцямі і атрымай каштоўныя прызы.**

Вы сабралі самы вялікі ўраджай? Або змайстравалі ўнукам арэлі? Вышылі абрус або ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі?

Зрабілі ўласнымі рукамі трактар? Або лепш за іншых умееце іграць на самаробнай дудцы? А можа, шыеце абноўкі хамякам і коцікам? Ці сабралі багаты ўраджай грыбоў і нарабілі рэкордную колькасць закатак?

Тады раскажыце пра гэта.

Дасылайце на нашу пошту **regionnews@rh.by** свае лепшыя фотаздымкі. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі тым, што выклікае ў вас пачуццё гонару, а ў суседзяў – пачуццё добрай зайздрасці.

**Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак САДОВЫЯ АРЭЛІ.**

Таму, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі ў падарунак НАБОРЫ АГАРОДНІКА. А ўсе ўдзельнікі акцыі, незалежна ад вынікаў, атрымаюць у падарунак НАБОРЫ НАСЕННЯ як гародніны, так і кветак.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы да 13 лістапада.

Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 17 да 27 лістапада. А 1 снежня мы абвесцім вынікі акцыі на старонках газеты.

**У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і напішыце некалькі сказаў пра сваё фота і сябе.**

Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце “Супергаспадар”.

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Сёння мы прапануем вам здымак гаспадыні, мамы дваіх дзяцей **Людмілы Грабянёк**. Людміла піша, што любіць гатаваць, шмат эксперыментуе ў кулінарыі, часта фатаграфуе свае стравы.

Кажа, на прыгатаванне смакаты натхняе сям'я.

**Калектыў “Рэгіянальнай газеты”.**

# Фільм віляйчанкі пакажуць на міжнародным кінафестывалі "Лістапад"

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА

**Сёлета на міжнародным кінафестывалі "Лістапад" пакажуць дакументальны фільм ураджэнкі Вілейкі журналісткі Аўгіні Манцэвіч (на фота).**





Галоўная гераіня Васіліна Валадкевіч распавядае ў фільме пра нялёгкае вясковае жыццё, няўдалае замужжа, смерць дзяцей, якія не пакінулі ўнукаў. Стоп-кадр з фільма.

Галоўная гераіня фільма – амаль 90-гадовая жыхарка вёскі Лохаўшчына на Валожыншчыне **Васіліна Валадкевіч**.

### Аўгіня Манцэвіч: Цяпер змагаюся з іпастассю прадзюсара

Здымаючы фільм, журналістка выступала і рэжысёрам, і прадзюсарам, і сцэнарыстам, і аператарам.

– Кожная з іпастасяў для мяне была цяжкая, таму што ў кожнай з іх я выступала ўпершыню, – прыгадвае Аўгіня. – Я не ведала, як дзейнічаць правільна, ці так я раблю, ці не. У мяне зусім не было досведу.

Па яе словах, цяпер яна "змагаецца з іпастассю прадзюсара":

– Фільм ужо ёсць, а што рабіць з ім, не ведаю.

Каб хоць нешта зрабіць, Аўгіня прыняла рашэнне падаць свой фільм на кінафестываль. Фільм прынялі. Хаця да сённяшняга дня не ведае пра патрабаванні арганізатараў да пададзеных фільмаў. Проста запоўніла анкету – і ўсё.

Зарабіць грошай з дапамогай фільма не атрымалася, прызнаецца субяседніца. Зразумела, што пра гэта варта было падумаць яшчэ на этапе вытворчасці фільма. Але яна наўмысна не думала:

– Раптам атрымаецца б нейкая "лажа", а мне ўжо далі на яго грошы?

Таму найважнейшым для Аўгіні было проста зрабіць фільм і паглядзець, які ён атрымаецца.

– Я задаволеная, што ў мяне атрымаўся годны прадукт, прынамсі, настолькі годны, што яго прынялі ў нацыянальны конкурс "Лістапад". Цяпер я ведаю, што на вытворчасць наступных фільмаў ужо можна будзе прасіць грошы.

Тады і якасць можа атрымацца лепшай, мяркуе Аўгіня. І яна зможа дазволіць сабе апаратара, гукарэжысёра.

### Пакуль збіралася здымаць фільм, памёр адзін герой

Першапачаткова Аўгіня Манцэвіч збіралася здымаць фільм пра бабу Васіліну і яе сына **Віцю**. Хацела паказаць жыццё праз іх адносіны.

– Але я так дацягнула, – распавядае Аўгіня, – што Віця памёр.

У аўтара ўзнікла ідэя зняць фільм, у якім сутыкнуцца старое жыццё, якое сыходзіць. Гэта Васіліна. І новае, якое прыходзіць. Гэта пара хлопцаў, якія купілі хату ў Лохаўшчыне.

Дзве гэтыя лініі, па словах Аўгіні, яна здымала даволі доўга і ў пэўны момант хацела іх звесці. Але затым зразумела, што лініі занадта розныя. І што гісторыя бабы Васіліны ўжо самадастатковая.

– Да таго ж бабуля настолькі раскрылася перад камерай, – прыгадвае Аўгіня, – што я сама гэтага не чакала. У выніку, зрабіла фільм толькі пра яе.

**Журналістка ведала, што жыццё галоўнай гераіні было нялёгкім, але ў працэсе здымак даведвалася ўсё больш падрабязнасцей і была проста ў шоку, праз якія пакуты давялося прайсці гэтай жанчыне.**

– І вось я жыву ў суседняй з ёй хаце і думаю пра тое, што праз плот жыве яна, адна, якая прайшла столькі ўсяго. І мне ніколі да канца яе не зразумець, бо я жыву зусім іншым жыццём. І пры гэтым – мы з ёй знаходзімся ў адных часава-прасторавых каардынатах, – тлумачыць Аўгіня.

Яна перакананая: такіх жанчын, як Васіліна Валадкевіч, на самой справе вельмі шмат.

### Галоўная гераіня пакуль не бачыла фільм пра сябе

Як прызналася аўтарка, фільм яна здымала не для фестывалю, а для сябе. Даўно ўжо думала пра тое, што бачыць свет сродкамі кіно:

– Ведаеце, бывае такое, штосьці пабачыш, даведаешся і падумаеш: вось бы зняць пра гэта кіно ці напісаць кнігу.

Раней Аўгіню ўсё больш цягнула напісаць кнігу. Але пасля зразумела, што кіно – гэта больш яе. Было адчуванне, што можа атрымацца.

– Вядома, зняць фільм – гэта не пост у фэйсбуку напісаць, – упэўненая субяседніца. – Трэба шмат высілкаў, часу і тэхнічнае абсталяванне. Таму думала і пра тое, каб здымкі фільма прынеслі мне грошы.

Пакуль галоўная гераіня фільма – баба Васіліна – кіно пра сябе не бачыла. Падчас стварэння фільма аўтарка наўмысна нічога ёй не паказвала, каб захаваць чысціню гісторыі гераіні. Пасля прапаноўвала паказаць пару ўрыўкаў, але бабуля сама не захацела.

Цяпер Аўгіня думае прапанаваць Васіліне Валадкевіч паехаць у Мінск на паказ падчас "Лістападу":

– Але зноў жа – сумняваюся, што яна захоча. Да таго ж – ёй амаль 90, а ў такім узросце ўжо цяжка пераносіць дарогу.

Фільм "Васіліна" здзе крыху больш за паўгадзіны. Здымаць яго журналістка пачала летась восенню, а скончыла сёлета вясной. Атрымалася прыкладна паўгода.

У пачатку вясны змантавала амаль канчатковую версію фільма, але працягвала здымаць, бо была крыху іншая ідэя сцэнару.

Калі змантавала – пабачыла, што вось – гэта ўжо фільм. Трэба спыніцца.

Дакументальнае кіно Аўгіня пакуль лічыць захапленнем. Але робячы кіно, яна ставілася да яго як да працы:

– Інакш, думаю, у мяне не атрымалася б зрабіць тое, за што не было б сорамна.

Здаралася і такое, што часам не хацелася ісці здымаць, быў вельмі моцны мароз, вецер, снег. Але Аўгіня ішла і здымала. Ведала: не зробіць гэта цяпер, пасля не будзе такой магчымасці.

Гледачам тэлеканала "Белсат" Аўгіня Манцэвіч вядомая як вядучая праграмы "Аўтаспынам па Беларусі".

– Ці дапамог вам нейк досвед "Аўтаспыну" ў здымках фільма.

– Напэўна. Я назірала, як працуюць мае рэжысёр і аператар. Да таго ж і мой журналісцкі досвед, і ўменне працаваць з людзьмі, размаўляць з імі таксама дапамаглі, – лічыць Аўгіня.

Па яе словах, сам факт прыёму фільма на фестываль важны. Гэта прызнанне працы:

– Цяпер я ведаю, што зняла штосьці вартае, што паставілі ў адзін шэраг, напрыклад, з фільмам майго любімага беларускага дакументаліста **Віктара Аслюка**.

Фільм "Васіліна" пакажуць 8 лістапада ў 17:00 у мінскім кінатэатры "Беларусь" у 5-й зале.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Юрась Церабун: Не маю права забываць сваіх настаўнікаў

*Заканчэнне. Пачатак у №42.*

СМАРГОНЬ

**Юрась Церабун напісаў успаміны пра сваіх настаўнікаў.**

На сваё ж уласнае пытанне, для чаго гэта трэба праз столькі гадоў, адказвае: "Імёнаў маіх настаўнікаў няма нават у кнізе "Памяць" Смаргонскага раёна, а гэта настолькі таленавітыя асобы, яны столькі мне далі, што я проста не маю права забывацца пра іх".

**Іван Іванавіч Верамей**. Запомніўся мне як батанік, у якога была шыкоўная школьная цяпліца, дзе мы летам праходзілі практыку. Ён раіў любавацца кожнай раслінкай, атрымліваць асалоду ад працы і захапляцца хараством прыроды.

**Зоя Рыгораўна Мейсак**. Стройная, прыгожая і вельмі дакладная. Яна сабой быццам атаясамлівала той прадмет, які выкладала, – матэматыку. І яшчэ яна ніколі не жартавала, бо жарты ёй не пасавалі.

А як мы любілі школьныя майстэрні! Колькі было радасці, калі настаўнік працы дазволіць табе стаць за токарны станок і на ім працаваць. **Уладзімір Данілавіч Сільвановіч** вучыў нас усяму, што ўмеў сам, і гэта вельмі добра, што кожны вучань Уладзіміра Данілавіча сам мог нешта адпілаваць і забіць цвік.

Яшчэ адзін цудоўны чалавек назаўсёды застаўся ў маёй памяці. Гэта настаўнік пачатковай ваеннай падрыхтоўкі, ваенрук **Рамуальд Канстанцінавіч Усціновіч**. У час веснавых канікулаў ён нейк арганізаваў нам паход у Данюшава, што ў 10 кіламетрах ад Смаргоні.

Мы начавалі ў лесе, настаўнік зладзіў нам арыентаванне на мясцовасці з компасам і без, праходзілі паласу перашкод, начны марш-кідок, стралялі па мішэнях.

Цікава было вучыцца ў школе. Вучняў старэйшых класаў пускалі ў актавую залу, дзе гучала музыка і спяваў хор.

Тут я ўпершыню ўбачыў цымбалы і пазнаёміўся з **Аляксандрам Дзяругам**. Сотні вучняў прайшлі праз яго калектывы.

У той жа час я захапіўся авіямадэлізмам. Мы ездзілі на семінары авіямадэлістаў у Маладзечна. Смаргонь прадстаўляў я, **Міхась Бажнічын** і **Мікалай Філіпаў**. Пасля ён стаў старшынёй барысаўскага гарвыканкама.

Калі я выступаў разам з маладзечанскім народным ансамблем песні і танца "Спадчына" пад кіраўніцтвам **Іосіфа Сушко** на сцэне барысаўскага Палаца культуры, да мяне ў грымёрку падышоў Мікалай Філіпаў і абняў мяне па-сяброўску. Нас аб'ядналі Смаргонь і гурток авіямадэлістаў.

І ўсё ж такі я выбраў цымбалы.

І сёння магу з упэўненасцю сказаць, што ўсё лепшае ў жыцці дала мне школа. Шчырае дзякуй табе, мая беларуская школа.

**Юрась ЦЕРАБУН, былы выкладчык цымбал, мастак, жыхар Маладзечна.**

# Першая на Віленшчыне малачарня ў Тупальшчыне

## Як мясцовыя гаспадары развілі квітнеючы бізнес, які пасля разрабавалі бандыты

*Заканчэнне. Пачатак у №42.*

**СМАРГОНЬ**

**Пра тое, як мясцовыя гаспадары развівалі справу і які лёс напаткаў арганізацыю, даследаваў смаргонскі краязнаўца.**

Спраўна працуючы матор значна аблегчыў працу яшчэ з адной нагоды. У летнія месяцы, калі людзі шчыравалі ў полі, вельмі цяжка было знайсці і наняць дадатковага дбайнага работніка, які б збіваў уручную масла ў малачарні. Гэта праца лічылася занадта цяжкай, маруднай і на яе неахвотна пагаджаліся. За ўкараненне рухавіка ў перапрацоўцы малака Тупальшчынская малачарня атрымала пахвальны ліст ад арганізацыйнага камітэта сельскагаспадарча-прамысловай выставы ў Вільні.



1929 год. Малачарня ў Тупальшчыне. Лядоўня.



1929 год. Малачарня ў Тупальшчыне. Прыёмка малака ад кааператараў.

### У малачарню вадзілі экскурсіі

Дзякуючы эфектыўнаму развіццю кааператыва ў 1937 годзе распачынаецца ўзвядзенне сучасных будынкаў малачарні. Для гэтых мэт уладальнік маёнтка Тупальшчына **Уладзімір Бакшанскі** падарыў кааператыву адзін гектар зямлі, на якім паўстаў новы будынак малачарні, лядоўня і адміністрацыйны дом з памяшканнем для кіраўніка. Кошт пабудоў склаў 16 тысяч злотых. Летам 1938 года адбылося асвячэнне малачарні ў прысутнасці прадстаўнікоў міністэрства, сельскагаспадарчай палаты, адміністрацыйных улад і грамадскасці.

З мэтай знаёмства з працай і перавагамі новага накірунку развіцця перапрацоўчай вытворчасці на вёсцы ў Тупальшчыну ладзяцца экскурсіі для зацікаўленых асоб з павета, а сябры праўлення чытаюць даклады пра дзейнасць кааператыва на сходах земляробаў у розных кутках Віленшчыны.

Аднымі з першых тут закладваецца і плённа працуе кола кантролю малочнай вытворчасці. Аб'яднанне адсочвае якасць малака, дае гаспадарам карысныя парады па павелічэнні прадуктыўнасці пашы, рацыянальным кармленні дамашніх жывёл, вядзе асветніцкую дзейнасць. Сярод актыўных сяброў кола кантролю ў розныя гады былі такія гаспадары, як Ул. Бакшанскі з маёнтка Тупальшчына, браты **Жылкі** са Стаўбуцева, **Я. Грышкевіч** і **А. Дамуць** з Працут, **Д. Энгель** з Казянятаў, **Б. Яноўскі** і **М. Курносаў** з Палянаў, жодзішкаўскі ксёндз **Р. Дроніч**.

### Абрабавалі ўсё, што маглі

Падзеі Другой сусветнай разбурылі тутэйшы лад жыцця. Пасля стварэння ў 1939 годзе на базе маёнтка калгаса малачарня была нацыяналізаваная. Са з'яўленнем нямецкіх акупацыйных улад вясной 1942 года тупальшчынскім адміністратарам быў прызначаны **Гіляры Глушак**, гаспадарчая дзейнасць маёнтка была аднаўленая, працягнула працу і малачарня.

Як адзначала ў сваіх успамінах "Уцёкі ад Халакоста" **Эмануэла Цунг**, якой давялося ў гады вайны хавацца ад нацысцкага пераследу ў тутэйшых мясцінах, у суботнюю ноч з 6 на 7 сакавіка 1943 года на маёнтак Тупальшчына напалі бандыты і "забралі ўсё, што маглі, а Гілярыя Глушака застрэлілі".

**Праз некалькі тыдняў пасля гэтай сумнай падзеі рабаўнікі прыйшлі сюды зноў і спалілі прыгожую сядзібную пабудову на стромкім правым беразе Вяллі.**

### Адрэзалі вуха, збілі, расстралялі

У далейшым яшчэ неаднойчы жыццё мясцовых людзей гэтага паселішча падвяргалася гвалту і рабункам. У сакрэтнай "Дакладной запісцы сакратара Свірскага райкама КП(Б)Б **Мартыненкі** сакратару ЦК КП(Б)Б **П. К. Панамарэнку** аб выпадках тэрору і забойстваў у раёне" ад 3 сакавіка 1945 года паведамлялася: "…27.02.1945 г. у 9 гадзін вечара ў в. Тупальшчына Выгаленцкага с/с

**групай бандытаў быў забіты ўпраўляючы канторы Свірскага маслапрама т. Сіняўка Васілій Сідаравіч, які да расстрэлу быў падвергнуты зверскім цялесным пакутам. У яго было адрэзана левае вуха і збіты ўвесь твар.**

Адначасова з ім загінулі два таварышы, накіраваныя на працу ў Свірскі раён у сістэму маслапрама – **Смычкоў** і яго жонка. Бандай таксама ўзламаны маслазавод у в. Тупальшчына. Малочныя прадукты, якія знаходзіліся там, а таксама посуд забрала банда".

У пасляваенны час былы Тупальшчынскі малочны кааператыў падпарадкоўваецца спачатку Вілейскаму малаказаводу, а потым становіцца сепаратарным аддзяленнем пры Смаргонскім малаказаводзе. Але жыццё няспынна рухаецца наперад, і на змену былым тэхналогіям прыходзяць новыя, больш сучасныя. Таму з уводам у дзеянне ў 1975 годзе Смаргонскага завода абястлушчанага малака адпала неабходнасць у дзейнасці Тупальшчынскага аддзялення малаказавода. Спыніўшы працу, яго абсталяванне дэмантавалі, а будынкі ў хуткім часе разабралі.

Быццам няшмат, усяго паўстагоддзя, праіснавала прадпрыемства. Але і сёння, больш як праз 40 гадоў пасля закрыцця, старэйшыя жыхары жодзішкаўскай старонкі і выхадцы з тых мясцін добра памятаюць гісторыю Тупальшчынскай малачарні. Відаць, яна вартая такіх успамінаў і пашаны.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**

**Ілюстрацыі забяспечаны Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.**

---

**КАЛЯНДАР**

**30 КАСТРЫЧНІКА**

**1883.** Нарадзіўся **Янка Быліна** (сапр. Ян Семашкевіч; в. Лакцяны, цяпер Астравецкі раён), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт.

**1921.** У Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

**1936.** Памёр **Фердынанд Рушчыц**, польскі і беларускі мастак, педагог, тэатральны дэкаратар. Нарадзіўся ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета, цяпер Валожынскі раён. Пахаваны на мясцовых могілках.

**31 КАСТРЫЧНІКА**

**1934.** Нарадзіўся Тадэвуш Кокштыс (вёска Хоўхлава Маладзечанскага раёна), беларускі акцёр, народны артыст Беларусі (1984), Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

**1 ЛІСТАПАДА**

**1909.** Нарадзіўся **Іван Касяк** (в. Горы, цяпер Вілейскі раён), грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША.

**2 ЛІСТАПАДА**

**Дзяды. Дзень памінання памерлых.**



**1909.** Дзень нараджэння **Максіма Лужаніна** (сапр. Аляксандр Амросьевіч Каратай), беларускага паэта, празаіка, кінадраматурга, перакладчыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Польшчы. Памёр у 2001 годзе. Быў сябрам літаратурных арганізацый "Маладняк", "Узвышша". Працаваў у часопісе "Узвышша" і на Беларускім радыё. У 1933 годзе арыштаваны і асуджаны да двух гадоў ссылкі Адпраўлены ў Марыінск Кемераўскай вобласці, праз некалькі месяцаў быў вызвалены і вярнуўся дадому. Падчас вайны – на фронце. Удзельнічаў у баях пад Масквой і Сталінградам. З 1944 года – загадчык аддзела культуры газеты "Звязда", адказны сакратар часопіса "Вожык". Працаваў рэфэрэнтам АН БССР (сакратаром Якуба Коласа). Рэабілітаваны 24 жніўня 1956 года. У 1967–1972 гадах – галоўны рэдактар кінастудыі "Беларусьфільм". Пісьменніку прысвечаны дакументальны фільм "Незавершаная хата".

**1939.** 5-я нечарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з Беларускай ССР.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Адаптацыя ветэранаў пасля вайны: разлічваць на дзяржаву проста смешна

## Вялікая Айчынная, афганская, украінская. Як пачуваюць сябе ўдзельнікі войнаў у мірным жыцці?



Фота Zamok.druzya.org

Украінскі ветэран Леанід Астальцаў, вярнуўшыся з вайны, змог адкрыць сваю справу.

Што рабіла і робіць дзяржава для адаптацыі іх, сваіх герояў-абаронцаў да жыцця пасля вайны? Журналіст "РГ" сустрэлася з сынам ветэрана Вялікай Айчыннай, з удзельнікам афганскай вайны і ветэранам антытэрарыстычнай аперацыі ва Украіне.

### Ветэраны ВАВ: Якая падтрымка?! Мы сена карове накасіць не маглі

Спытаць, як клапацілася дзяржава пра сваіх герояў – ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, – з першых вуснаў не атрымалася. Аднак пасляваеннае пакаленне – дзеці тых самых герояў – яскрава памятае сёння ўласнае дзяцінства ў 1950-1960-х гадах.

Бацька **Мікалая Камінскага Пётр** у войска пайшоў у 1940-м. Падчас вайны быў кулямётчыкам, прарываў ленінградскую блакаду, тут яго параніла ў руку і нагу. Асколак у назе непакоіў да канца жыцця. А левую руку там жа, у палявых умовах, ампутавалі.

Да 1946 прабыў у шпіталі, скалечаны і фізічна, і маральна прыйшоў у родную Ілью. Ветэран без адной рукі пабудаваў хату, ажаніўся, у сям'і нарадзілася трое дзяцей.

– Ці памятаеце, была нейкая дзяржаўная падтрымка, клапаціўся хто-небудзь пра адаптацыю ветэранаў, інвалідаў, што прыйшлі з той вайны? – пытаюся ў Мікалая Пятровіча.

– Пра што вы кажаце! Мы, сям'я ветэрана і інваліда вайны, на адну карову сена накасіць не маглі! – узрушаецца мой субяседнік.

І прыгадвае, як на пачатку 1960-х яны, трое яшчэ невялікіх дзяцей, разам з мамай хадзілі ў лес за некалькі кіламетраў ад вёскі і жалі карове траву. А пасля посцілкамі насілі дадому.

Па ўспамінах Мікалая Пятровіча, бацька ніколі "не казыраў" сваёй інваліднасцю і ветэранствам, не насіў медалёў, не выступаў у школе, вельмі не любіў нешта прасіць.

Сям'я жыла бедна. Бацька-інвалід працаваць не мог. Праўда, неяк хацеў паспрабаваць адкрыць "сваю справу".

У яго было спецыяльнае прыстасаванне, каб рабіць папяросы. Думаў, хоць гэтым неяк зарабляць на жыццё сям'і. Але ж якая там "свая справа" ў савецкі час. Гэта "прадпрымальніцтва" магло вельмі дрэнна скончыцца.

А яшчэ з расповедаў бацькі і з уласнага дзяцінства мужчына прыгадвае выпадак, калі сусед-ветэран, малады хлопец без адной нагі, прыйшоў на танцы і, убачыўшы танцораў, хацеў застрэліцца. Шмат хто співаўся.

Пазней ад дзяржавы былі паштоўкі да Дня Перамогі, пасля пачалі даваць невялікія падарункі. Калі інвалідаў вайны стала менш, сталі даваць матавазкі і "Запарожцы". Яшчэ пазней – кватэры. Аднак наш ветэран да гэтага не дажыў.

У 1975 годзе Пётр Камінскі ўжо цяжкахворы ляжаў у бальніцы. Савецкі Саюз святкаваў 30-годдзе Перамогі. А паміраючы ветэран у гэтыя майскія дні ляжаў на бальнічным ложку ў Ільі і казаў жонцы:

– Пэўна, забыліся яны пра мяне…

15 мая ветэран памёр. А падарунак, электрабрытву, жонцы аддалі. Праўда, пасля яго смерці.

А яшчэ, па словах сына ветэрана, інваліды вымушаныя былі штогод ездзіць на медкамісію для таго, каб пацвердзіць сваю інваліднасць, адсутнасць рукі ці нагі.

– Ведаеце, колькі інвалідаў было ў тыя часы? – заканчвае свой расповед Мікалай Пятровіч. – Паглядзіце афіцыйныя лічбы параненых ў Вялікай Айчыннай вайне. І вядома ж, ніякіх там спецыяльных умоў для іх адаптацыі не стваралі. Можа, з-за вялікай колькасці ветэранаў гэта было і немагчыма.

Мой субяседнік перакананы: можа, палкоўнікі і генералы мелі ад дзяржавы нейкія "пернікі". А просты радавы салдат нікому быў не патрэбны. Калі не зламаўся, знайшоў сілы не спіцца і не апусціцца, то добра. А разлічваць на дзяржаву ў тых абставінах было проста смешна.

### Адаптацыя воінаў-афганцаў: псіхалагічная дапамога? Не чулі

А на пачатку 1980-х адаптавацца да звычайнага мірнага жыцця мусілі хлопцы, якія прыйшлі з Афганістана.

– Ні гаварыць, ні пісаць пра гэта не хочацца, – прыгадвае падзеі 1980-х колішні афганец, інвалід афганскай вайны, маладзечанец **Ігар А.** – Як не былі патрэбныя радзіме яе ж героі пасля Вялікай Айчыннай, так нічога не змянілася і пасля афганскай.

– Вы думаеце, чаму афганцы пачалі аб'ядноўвацца пасля таго, як прыйшлі з вайны? – пытаецца Ігар.

Па яго словах, толькі таму, што адчувалі сябе нікому не патрэбнымі. З аднаго боку, ім давалі па-за чаргой інтэрнаты і кватэры. Здаецца, што яшчэ трэба маладым людзям? Але і тут узнікалі праблемы.

– Уявіце сабе, вы стаіце на чарзе на жыллё 15 гадоў, а тут прыходзіць малады хлопец і яму без чаргі адразу кватэру даюць, – кажа Ігар.

Не дзіўна, што пасля гэтага афганцаў маглі проста ўзненавідзець. Да таго ж, дзяржава прадугледзела для іх павышаныя заробкі. Таму, каб мець менш праблем, кіраўнікі прадпрыемстваў праўдамі-няпраўдамі стараліся не браць афганцаў на працу.

– Вельмі непрыемна было бачыць, як у канцы 1980-х – пачатку ліхіх 1990-х увесь час імкнуліся падмануць, запалохаць, – кажа Ігар. – Чым можна напалохаць тых, хто ўвесь час глядзеў у твар смерці?

Каб паказаць псіхалагічны стан салдат, Ігар прывёў такі выпадак:

– Уявіце сабе, што салдат-кіроўца ездзіць па афганскіх дарогах на грузавіку і возіць боепрыпасы. Ён ведае, што калі наедзе на міну, машына ўзарвецца і кішкі кіроўцы, прабачце, разляцяцца ў радыусе некалькіх кіламетраў. І ў гэтым "чаканні" ён ездзіць два гады.

Псіхалагічная дапамога? Пра што вы? Не займаліся тады такімі дробязямі.

### АТА: клопат ветэранаў пра саміх сябе ніхто не адмяняў

Праблемамі адаптацыі ветэранаў пасля антытэрарыстычнай аперацыі (АТА) займаюцца ўкраінскія грамадскія арганізацыі. Пра дзейнасць грамадскай арганізацыі "Студэна" ў гэтым накірунку распавяла актывістка **Аксана Іванцыў:**

– Мы працуем над псіхалагічнай адаптацыяй ветэранаў АТА, – кажа Аксана. – Натуральна, што пасля вяртання з вайны ў хлопцаў узнікаюць прэтэнзіі да дзяржавы, за якую яны змагаліся. Уявіце: хлопец, які яе абараняў, прыходзіць у нейкую інстанцыю гэтай самай дзяржавы, а яму там хамяць.

Спецыялісты "Студэны" шмат працуюць у накірунку "ветэран-сям'я". Арганізоўваюць сямейныя паездкі, дапамагаюць псіхалагічна.

Аднак і клопат ветэранаў пра саміх сябе ніхто не адмяняў.

Ужываць слова "ветэран" у адносінах да 30-гадовага ветэрана антытэрарыстычнай аперацыі **Леаніда Астальцава** было нязвыкла. У свядомасці стаяў закасцянелы вобраз сівога дзядулі з ордэнамі.

Да ваенных падзей на Украіне Леанід займаўся прыгатаваннем піцы. Працаваў у шматлікіх піцэрыях і рэстаранах.

На вайну Леанід пайшоў у 27 добраахвотнікам "проста з кухні", як кажа ён сам. Вярнуўшыся, вырашыў не закідаць любімую справу.

– Падумалася: а што калі адкрыць піцэрыю, узяць у штат псіхолага і навучаць кулінарыі хлопцаў-"аташнікаў", – прыгадвае Леанід.


Фота з архіва сям'і Камінскіх.

А ў ветэрана Вялікай Айчыннай Пятра Камінскага (у цэнтры) магчымасці адкрыць сваю справу не было.

Мужчына пайшоў у мясцовы цэнтр занятасці, некалькі месяцаў адвучыўся на курсах прадпрымальніцтва і склаў бізнес-план.

Доўга шукаў інвестараў, большасць з іх не верыла ў поспех справы. Аднак падтрымлівалі жонка, бацькі і сябры. Урэшце пачынаючы прадпрымальнік пазычыў 20 тысяч долараў і распачаў сваю справу. Зараз працуе сам, дае працу некалькім дзясяткам ветэранаў.

Па словах Леаніда, пасля вайны многія хлопцы не вяртаюцца на ранейшую працу, бо ўзнікаюць праблемы з кіраўніцтвам.

Цяпер пад брэндам "Ветэрана" працуе тры піцэрыі і 10 кавярняў. Сам Леанід гатуе рэдка. Шмат часу займаюць папяровыя і гаспадарскія пытанні. Настолькі шмат, што не хапае часу на сям'ю. Я не вельмі добры тата, прызнаецца ветэран.

– Як усе індывідуальныя прадпрымальнікі, плачу падаткі, – кажа Леанід. – Ніякіх ільгот дзяржавай для нас не прадугледжана.

1940-я, 1980-я, 2000-я… Зноў прыгадваюцца словы Мікалая Пятровіча Камінскага…

Калі не зламаўся, знайшоў сілы не спіцца і не апусціцца, то добра. А разлічваць на дзяржаву ў тых абставінах было проста смешна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Чыталі вершы пальцамі

## На прадпрыемстве "Энва" зладзілі сустрэчу "Ля самавара"

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У межах месячніка белага кійка правялі цёплую гутарку з актыўнымі чытачамі і работнікамі прадпрыемства ў бібліятэцы.**



Каля самавара жарты не спыняліся.

Загадчыца гарадской спецыялізаванай бібліятэкі №18 прадпрыемства "Энва" **Валянціна Федаровіч** ладзіць сустрэчы кожны квартал. У сераду, 25 кастрычніка, "Ля самавара" сабраліся самыя чытаючыя працаўнікі "Энвы".

За кубкам чаю і прысмакамі не змаўкалі жарты і ўсмешкі. **Міхаіл Свірыда** растапіў трапным гумарам сэрцы ўсіх гасцей. А галоўным упрыгажэннем стала быў тульскі самавар, асабістая рэліквія Валянціны Аляксееўны, што дасталася ёй ад маці.

Напачатку бібліятэкарка распавяла, якімі навінкамі можа парадаваць чытачоў. Сярод іх аўдыёкнігі рознай тэматыкі: дэтэктывы, духоўная літаратура, гістарычная. На шрыфце Брайля выйшлі новыя нумары часопісаў серыі "Гісторыя і асоба" і "Востры сюжэт".

Пасля Валянціна Федаровіч распытала, якія асацыяцыі ўзнікаюць у кожнага пра восень. На розум прыходзіла рознае: хтосьці скардзіўся на гразь і холад, іншыя захапляліся рознакаляровым лісцем. Некаторыя прыгадалі вершы, напрыклад, **Наташа Жукоўская** зачыла радкі пальцамі – праз шрыфт Брайля. **Таццяна Саўчанка** дэкламавала ўласны пяшчотны твор.

**А самыя смелыя не саромеліся зацягваць песні, у якіх малюецца восень. Іх набралася не адзін дзясятак, і большасць з іх падхоплівалі іншыя госці.**

Затым усе разам разгадвалі крыжаванку: бібліятэкарка задавала пытанне, казала, колькі літар, а прысутныя лёгка справіліся з усімі заданнямі.

На заканчэнне зладзілі музычны конкурс. Запявала вакальная група, у якой спяваюць **Вераніка Слюсарэнка**, **Ядвіга Тамашэўская**, **Жанна Пярвухіна** і гаспадыня, Валянціна Федаровіч.

### Бібліятэкарка: тут кнігі чытаюць, у тым ліку невідушчыя

Валянціна Аляксееўна працуе ў бібліятэцы пры "Энве" тры гады. Менавіта яна прыдумала ладзіць утульныя чаяванні для аматараў кніг. І прызнаецца, што вельмі паважае мужнасць і цікавасць да ўсяго новага ў сваіх чытачах.

Спачатку трэба было прывыкнуць, што чытачам часам трэба дапамагчы прысесці, выслухаць, што ў іх на душы, якія навіны. Калі казала пра аўдыёкнігі, то спачатку пыталася, ці праслухалі іх. І заўсёды чытачы папраўлялі, што кнігу яны чыталі. Некаторым падапечным Валянціна прыносіць кнігі дадому – каб усе, хто хоча чытаннем бавіць свой час, мелі такую магчымасць.

### Што ладзяць на месячнік белага кійка

Месячнік белага кійка, у межах якога прайшла сустрэча "Ля самавара", – гэта шэраг мерапрыемстваў, арганізаваных для людзей са слабым зрокам і невідушчых. Падчас яго прадпрыемства "Энва" таварыства "БелТІЗ" праводзяць сустрэчы і святы ад 15 кастрычніка да 15 лістапада.

Сёлета сярод мерапрыемстваў у межах месячніка праходзяць экскурсіі па заводзе, гульня "Эрудыт" у камп'ютарным класе, чэмпіянат па шоўдаўне – настольным тэнісе для невідушчых.

У кінатэатры "Радзіма" 16 лістапада пройдзе прагляд фільма з аўдыёдыскрыпцыяй. 10 лістапада адбудзецца выніковая сустрэча з прадстаўнікамі райвыканкама.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

## На адзін бар'ер стала менш: у Маладзечне з'явіўся новы пандус

**МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ**

**29 верасня жыхарка Залесся Дар'я Ліс пісала ў "Рэгіянальнай газеце" пра тое, як сутыкнулася з адсутнасцю пандуса ў адным з платных медыцынскіх цэнтраў Маладзечна.**

Сюды Даша прыехала зрабіць прышчэпку ад грыпу. Ды, па словах дзяўчыны на інвалідным вазку, перашкодзілі "дзве прыступачкі ў адным з прыватных медыцынскіх цэнтраў, які працуе ўжо не першы год".

Дзяўчаты-супрацоўніцы, пісала Даша, працуюць там добразычлівыя – дапамаглі і ў цэнтр заехаць, і назад выехаць. І Кнігу скаргаў і прапаноў далі без праблем.

Запіс у Кнізе скаргаў дзяўчына пакінула, а таксама напісала ў нашу газету.

Кіраўнікі медыцынскага цэнтра прыслухаліся да пацыенткі, і літаральна праз два тыдні з правага боку ганка з'явіўся металічны пандус.



Да скаргі.



Праз пару тыдняў пасля скаргі.

– Здорава, што ў медыцынскім цэнтры цяпер ёсць зручны пандус, – кажа Даша. – Шкада, што ўладальніку спатрэбілася шмат часу, каб зразумець неабходнасць безбар'ернага асяроддзя. Але ўсё добра, што добра заканчваецца. Цяпер буду прыязджаць сюды.

Па словах Дашы, у наступны раз яна таксама папросіць Кнігу скаргаў, але ўжо для таго, каб напісаць падзяку.

– Ведаю, многія чакалі з'яўлення пандуса, але ніхто не адважваўся напісаць пра гэта ў Кнізе скаргаў, – падзялілася Даша.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Павел Галубовіч: у гэтым сезоне нам не хапіла футбольнай злосці

Фота Наталлі ТУР.

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 21 кастрычніка, у Маладзечне закрылі футбольны сезон 2017 года. Закрылі прыгожа, перамогай з лікам 6:1 над камандай СДЮСШ-8 з Гомеля.**

У канцы матча заўзятары ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" назвалі імя лепшага, на іх погляд, гульца сезона. Ім стаў **Павел Галубовіч**, 23-гадовы паўабаронца каманды.

Пасля ўручэння заслужанай узнагароды, мы сустрэліся з Паўлам.

– Я не лепшы і не асаблівы, – сціпла прызнаецца Павел, – проста імкнуўся гуляць, не прапускаць трэніроўкі, не падстаўляць каманду. А за такую ўзнагароду дзякуй нашым фанатам, гэта прыемна. Узнагарода заняла сваё месца на паліцы разам з іншымі кубкамі і медалямі, якія я атрымоўваў з шасцігадовага ўзросту. Фанаты ў нас харошыя, ездзяць на далёкія выезды, падтрымліваюць. Акрамя гэтай узнагароды, у мяне ёсць яшчэ шалік ФК "Маладзечна". Нейк фанаты кідалі на поле, я злавіў, берагу, захоўваю.

**– А акрамя фанацкай "розы", збіраеце нешта, звязанае з футболам?**

– Не, хіба толькі мне на дзень нараджэння сябры прыгатавалі торт у форме футбольнага поля, на якім крэмам быў напісаны лік 2:3.

Паўлу, або Паўлу Віктаравічу, 23 гады. Па імені па бацьку Паўла сталі называць тады, калі ён стаў настаўнікам фізкультуры ў гімназіі №3, а таксама трэнерам дзяцей у спартыўнай школе.

– Я і трэнірую так, каб у дзяцей не знікала цікавасць да футбола. Дзецям жа хочацца – раз і загуляць адразу ў вышэйшай лізе, а так не бывае. Я думаю, што футбол – гэта ў меншай ступені талент, у большай – жаданне працаваць.

**– Вы настаўнік строгі? Двойкі ставіце?**

– Не, двоек стараюся не ставіць. Толькі цяжка працаваць, калі на ўрок фізкультуры прыходзіць восьмы клас, у якім 30 чалавек. Бывае, што крычу тады, бо не слухаюцца.

**– А калі гаварыць пра вас, у якіх працэнтах суадносіцца ваш талент і працавітасць?**

– Думаю, 60 на 40. 60% таленту ўсё ж. Футбол я выбраў, калі вучыўся ў першым класе ў той жа самай гімназіі №3. Тады прыйшоў на ўрок трэнер, спытаўся, хто хоча гуляць, я падняў руку, так і застаўся ў футболе. Не ўяўляю цяпер, чым бы мог займацца акрамя футбола. У дзяцінстве самае страшнае пакаранне для мяне было, калі за нейкую правіннасць бацькі забаранялі хадзіць на трэніроўкі. Таму імкнуўся ўсё выконваць своечасова, каб бегаць трэніравацца.

Павел гуляе за ФК "Маладзечна" два гады, да гэтага быў гульцом сталічнага клуба "Прамень".

– Калі вучыўся ў педагагічным універсітэце, трапіў у "Прамень". І адразу стаў гуляць у асноўным складзе. Там таксама атрымаў прыз як лепшы гулец сезона. З "Праменем" давялося паездзіць за мяжу, гулялі ў Босніі і Герцагавіне. А калі закончыў вучобу ва ўніверсітэце, вярнуўся ў Маладзечна на працу.

**– Павел, акрамя гульні ў футбол, кажуць, што вы цудоўны гулец і ў футбол на камп'ютары.**

– Хто кажа? Саша Альховік? Дык ён са мной не гуляў ні разу, адкуль ён ведае, што я добра гуляю? Па праўдзе кажучы, на камп'ютарныя гульні часу няма. У панядзелак, сераду, пятніцу я на працы і трэніроўках ад васьмі раніцы да дзевяці вечара.

**– Паша, вас паслухаць, у камандзе ўсе гульцы адказныя, дысцыплінаваныя. Чаму усё ж такі сёмае месца ў выніку?**

> **– Я не ведаю. Я, праўда, не ведаю. Я не думаю, што нехта спецыяльна гуляў блага. Магчыма, не хапіла майстэрства, а можа, чароўнага штуршка.**

Калі параўноўваць гэты сезон і мінулы, у мінулым гулялася спакойна. Ніхто ніякіх патрабаванняў не выказваў, задач не было. Сёлета ж на нас ціснулі, патрабавалі выхаду ў першую лігу. У хлопцаў быў, пэўна, нейкі мандраж, адказнасць. Нам не хапіла футбольнай злосці, вось так.

**– А ў вас ёсць амбіцыі пагуляць у першай, вышэйшай лізе?**

– Канешне, хацелася б. Трэніравацца для гэтага трэба многа. А дзе трэніравацца? Ужо ў шэсць гадзін вечара цёмна. Нас заганяюць у каробку. А як там будзеш трэніравацца? Штучнае ж поле нельга пабудаваць. Вакол Маладзечна пабудавалі палі ў Чысці, Вілейцы, Смаргоні. А Маладзечна абмінулі.

Падчас размовы Павел не раз узгадвае пра перадапошні сумны матч, які маладзечанцы прайгралі з крыўдным лікам 4:5.

– Вельмі крыўдна прайграваць такія матчы. Стараешся, трэніроўкі не прапускаеш, а тут залятае такая лухта.

**– Тады многа хто вінаваціў аднаго варатара, Радзівона Субача.**

– Нельга вінаваціць у тым, што прайгралі аднаго варатара. Радзівону толькі 18 гадоў. І такіх памылак у яго раней не было, ён жа вучыцца пакуль. Нічога страшнага, бывае ў кожнага.

**– Кіраўніцтва каманды вас ужо збірала? Агучвала вынікі сезона? Гаварылі пра планы на будучае?**

– Я думаю, нас збяруць пасля апошняй гульні. І яшчэ за час, што я гуляю ў футбол, я зразумеў, што загадваць на будучае нельга. І тое, што абяцаюць у пачатку сезона, не факт, што будзе ў канцы. А я, магчыма, увогуле пераеду ў Мінск.

**– Паша, вы вельмі спакойны чалавек? Што вас можа вывесці з сябе? Калі пачынаеце крычаць?**

– Калі лік у канцы матча становіцца 4:5.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Турнірная табліца. Другая ліга

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ЮАС | 25 | 19 | 5 | 1 | 60-12 | 62 |
| 2 | Чысць | 25 | 19 | 2 | 4 | 79-26 | 59 |
| 3 | Клецк | 25 | 16 | 3 | 6 | 73-35 | 51 |
| 4 | Ашмяны-БДУФК | 25 | 17 | 3 | 5 | 88-26 | 49 |
| 5 | Вікторыя | 25 | 13 | 5 | 7 | 46-28 | 44 |
| 6 | Спадарожнік | 25 | 13 | 4 | 8 | 53-24 | 43 |
| 7 | Маладзечна-ДЮСШ 4 | 25 | 12 | 6 | 7 | 67-37 | 42 |
| 8 | СМІ-Аўтатранс | 25 | 10 | 3 | 12 | 46-56 | 33 |
| 9 | Энэргетык-БДАТУ | 25 | 8 | 5 | 12 | 41-56 | 29 |
| 10 | Узда | 25 | 8 | 4 | 13 | 44-62 | 28 |
| 11 | Любань | 25 | 6 | 3 | 16 | 33-75 | 21 |
| 12 | Зборная ТФ | 25 | 4 | 4 | 17 | 30-78 | 16 |
| 13 | СДЮШАР-8 | 25 | 3 | 1 | 21 | 23-94 | 10 |
| 14 | СДЮШАР-3 | 25 | 3 | 0 | 22 | 21-95 | 9 |



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Старaславянская назва каштоўных камянёў рубіну і радзей сапфіру.
4. Мужчынскае і жаночае адзенне старажытных грэкаў – доўгая і шырокая сарочка, часцей без рукавоў, якая падпярэзвалася з напускам.
6. Газета “Нью-Ёрк Таймс” у 1923 годзе пісала: “Існуе мозг чалавека, які мае вялізную каштоўнасць: у дзелавым і прамысловым свеце яго ацэньваюць ў 15 мільярдаў долараў”. Назавіце прозвішча гэтага чалавека.
8. Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій.
9. Частка вупражы, што складаецца з драўлянага каркаса (клешчаў), абкладзенага мяккім лямцам з унутранага боку.
10. Кармушка для жывёлы ў выглядзе адкрытай драўлянай скрынкі на ножках або рашоткі, нахільна прымацаванай да сцяны.
11. Крупы з абадраных цэлых зярнят, пераважна грэцкія.
14. Вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое прыносіць дождж, град, снег.
15. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
18. “... не родзіць сакала, а такога чорта, як сама”.
19. Майстэрня для пашыву адзення, абутку, рамонту бытавой тэхнікі.
21. Астраўная дзяржава ва ўсходняй частцы Міжземнага мора, сталіца якой Нікосія.
23. Мнагамесны пасажырскі аўтамабіль.
24. Карл Маркс бачыў у іх матэрыяльную аснову, на якой будавалася ўнутры мануфактуры падрыхтоўчая работа для буйной прамысловасці. “Не падлягае аніякаму сумненню, што ў 18 стагоддзі яны ўпершыню падалі думку выкарыстоўваць у прамысловасці аўтаматы”.

**ПО ВЕРТЫКАЛІ:**

2. У Егіпце быў бог Феўс, які вынайшаў лічбы, лік, геаметрыю, астраномію, пісьмо. Тады ж краінай правіў цар, да якога прыйшоў бог, каб даць асвету яму і яго народу. Ён, як і аднайменны герой твора расійскага пісьменніка, быў супраць ведаў і пахаваў пачаткі Феўса.
3. Неабходная, істотная, неад’емная ўласцівасць прадмета або з’явы, у адрозненне ад выпадковых, мінучых.
5. Спіс рэчаў, скрадзеных падчас яго прысягі: 10900 кубкаў, 130 афіцыянцкіх куртак, 600 сурвэтак, 200 абрусаў, 6000 попельніц, 1 кафейнік.
7. У Старажытным Рыме ў рабоў былі выбрытыя лбы для таго, каб было добра відаць ...
8. Спосаб друкавання, пры якім фарба перадаецца з друкарскай формы на гумавую паверхню, а з яе на паперу.
12. 18-гадовы дваранін Аляксей Аленін быў правобразам аднаго літаратурнага героя. Убачыўшы сябе на сцэне, кінуў лайдацтва і сеў за вучобу. Назавіце героя, якога стварылі па яго вобразе.
13. Варварскае племя, якое разбурыла Рым.
15. Сіплы гук, які чуецца пры цяжкім дыханні, здаўленай гаворцы.
16. Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над другім.
17. Дробная марская рыба, якая ідзе ў ежу ў кансерваваным выглядзе; анчоус.
20. Назвы Дунай, Дон, Днепр, Данец першапачаткова азначалі ...
22. У Кітаі гэта рабілі з лёну, паклі, лубу, бамбуку, рыззя, саломы, травы.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №42. Па гарызанталі.** 2. Дысананс. 5. Верн. 6. Чулы. 10. Зрэнка. 11. Лікёр. 13. Дымар. 14. Стома. 16. Чубатка. 18. Экіпаж. 19. Слабодка. 20. Лацкан. 24. Дыяген. **Па вертыкалі.** 1. Жодзішкі. 3. Эктагенез. 4. Чарнілы. 7. Дуплет. 8. Мнемоніка. 9. Лексіка. 12. Дырэктар. 15. Чабор. 16. Чарга. 17. Каскадзёр. 20. Ліга. 21. Друкар. 22. Нігерыя. 23. Левіяфан.



## ГАРАСКОП 27 КАСТРЫЧНІКА – 2 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Цяжкі і стамляльны пачатак тыдня, груз падзей, што адбыліся, усё яшчэ будзе ўплываць на вас. Вашы сілы на зыходзе, і вам цяжка прасоўвацца наперад. Вазьміце сабе перапынак і адпачніце, хаця наўрад вы зможаце сядзець на месцы.

**ЦЯЛЕЦ.** Магчыма, у вас з’явяцца розныя ідэі, ці жаданні будуць супярэчыць адно аднаму. Гарманічна аб’яднаць іх ці выбраць нейкае адно – ваша задача.



**БЛІЗНЯТЫ.** У вас магло б з’явіцца светлае рамантычнае пачуццё, чалавек, якога вы змаглі б пакахаць ці пасяброваць з ім. Але толькі ў тым выпадку, калі вы самі сабе гэта дазволіце. Пакуль вы жывяце замкнутым жыццём, у сваім уласным свеце, поўным перажыванняў. Вучыцеся бачыць прыгожае, не падаўляйце эмоцыі, радуйцеся жыццю.



**РАК.** Спрыяльны час, каб увасобіць у жыццё самыя патаемныя мары. Дзейнічайце рашуча і смела і ведайце, што зоркі на вашым баку. Па магчымасці ўпрыгожвайце свой дом, каб энергія радасці, святла і любові запоўніла вас і перадалася іншым.



**ЛЕЎ**. У вас насычаныя дні. Вам падабаецца. Вы з усяго гэтага зробіце высновы і здзейсніце штосьці новае для сябе. Абмяжуйце толькі пустыя забавы, бо гэта і бюджэт зберажэ, і засцеражэ ад непрадбачаных сітуацый.



**ДЗЕВА.** У вас з’явіцца новая работа ці нейкі цікавы занятак, здольны захапіць вам цалкам і поўнасцю. І гэта добра. Зоркі кажуць, што станоўчыя эмоцыі вам гарантаваныя. Каб не ўзнік канфлікт – стрымлівайце рэўнасць, праяўляйце больш даверу.



**ШАЛІ.** Вы адчуваеце сябе пакінутымі. Але гэта не так. Проста эмацыйны фон некалькі паніжаны, таму здаецца ўсё змрочным і не такім вясёлым. Але вас можа захапіць каханне, падобнае на сон. Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці – не ўпусціце іх.



**СКАРПІЁН.** Жывіце і цаніце кожны дзень. Бо калі вам будзе 90 гадоў, колькі дзён у вас застанецца? Вам можна брацца за складаныя справы. Зоркі запэўніваюць, што вы ва ўсім даб’яцеся поспеху. Памятайце: ваша зброя ў барацьбе з чымсьці негатыўным – спакой.



**СТРАЛЕЦ.** Калі ў вас вялікі аб’ём работы, і гэта тэрмінова, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з’яўляюцца новыя сілы.



**КАЗЯРОГ.** Усе дні вы будзеце атрымліваць асалоду з раніцы да вечара, смакуючы кожнае імгненне. Асабліва цудоўнымі будуць выхадныя. Вы даб’яцеся лепшага выніку, калі меней будзеце гаварыць пра свае праблемы, а ўважліва выслухоўваць меркаванне навакольных.



**ВАДАЛЕЙ.** Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў ваш час. А выхадныя прысвяціце адпачынку. Хатнія справы, вядома, таксама рабіць трэба, але яны пачакаюць.



**РЫБЫ.** Не перажывайце па дробязях і ні пра што не клапаціцеся. Жывіце спакойным жыццём. Вам трэба адпачнуць, перш за ўсё, маральна, пажыць у гармоніі з сабой і навакольным светам. Трэба проста дазволіць сабе нічога не рабіць. Самае неабходнае складзецца без вашага ўдзелу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 2 | | | | 4 | | | |
| | 1 | | | | 5 | 2 | | 4 |
| 6 | 5 | 4 | 7 | | | 1 | | |
| | | | 5 | 8 | | | | |
| | 7 | | | | 9 | | 4 | |
| 3 | | | | 1 | 7 | | | 8 |
| 1 | | | 3 | | | | 5 | |
| | | | | | 6 | | | 3 |
| 7 | 3 | | | 5 | | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 28 кастрычніка, субота

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +7 / +6; 733 ↘ 4 | +2 / +4; 734 ↗ 5 | +6 / +6; 710 ↗ 10 | -3 / +3; 720 → 10 |
| Вільня | +8 / +6; 740 ↓ 4 | +0 / +6; 739 ↗ 6 | +6 / +8; 711 ↗ 8 | -2 / +4; 727 ↘ 10 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.07
Захад 17.45
Даўжыня дня 9.38

Усход 15.19
Захад 24.00
Квадра 2

| | | |
|---|---|---|
| Віцебск | -1 / +3 | 740 ↗ 5 |
| Гродна | +4 / +7 | 744 ↗ 6 |
| Мінск | +2 / +4 | 734 ↗ 5 |
| Магілёў | +1 / +3 | 740 → 4 |
| Брэст | +6 / +7 | 745 → 6 |
| Гомель | +5 / +5 | 744 → 5 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -6,3 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +15,2 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18 мм у 1966 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **7 лістапада адзначаецца 100-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Акрамя выхаднога дня, гэтаму святу можна падзякаваць за вялікую колькасць незвычайных імёнаў. Пра Нінэль, Рэма, Уладлена, Калерыю і Леніну чытайце ў наступным нумары газеты.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Дзеці размаўляюць у дзіцячым садку:
– А нас у мамы двое, і ў кожнага ёсць свой пакой.
– А нас у мамы трое, і ў кожнага ёсць свой ровар.
– А ў нас... А нас у мамы сямёра, і ў кожнага ёсць свой тата.

***

– Мам, я прыбраў за сабой усе цацкі, як ты прасіла.
– Я прасіла цябе знайсці працу і з'ехаць.

***

Зіма, мароз 30 градусаў. Муж пытаецца ў жонкі:
– А дзе суп?
– На балконе. Адсячы колькі трэба.

***

Я не ўмела садзіцца на шпагат да таго часу, пакуль не зварыла дзіцяці кісель.

***

– Я тут нядаўна на вяселлі быў.
– А што ў цябе з тварам?
– Пабілі на шчасце.

***

Бабуля з унучкай штодзень гулялі ў школу. І толькі ў канцы другога тыдня бабуля зразумела, што робіць за ўнучку дамашняе заданне.

***

– Мне чай з лімонам.
– Лімон парэзаць?
– Так. І чай заварыць.

***

Не магу зразумець, што ў мяне з зубамі. У бясплатнай клініцы кажуць, што яны ўсе здаровыя. У платнай – што іх лячыць і лячыць.

***

Мой дзядуля быў за здаровы лад жыцця. Ён часта ездзіў на ровары. За гарэлкай, праўда. Але на ровары.

***

Прыходзіць на тэлефон СМС: "Я пасля таго вечара не магу цябе забыць..."
– Ё-маё, а я ўспомніць.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці патрэбны стадыён са штучным пакрыццём у Маладзечне?

**Сяргей Уладыка, аўтар "Рэгіянальнай газеты":**
– На гэта пытанне адказ адназначны: поле неабходнае. Іншая справа, мне складана зразумець, чаму яго да гэтага часу няма? Чаму ў свой час той, хто адказваў за штучны газон ў статысячным горадзе, размясціў яго ў Чысці? Для чаго? Для каго гэта было зроблена? Застаецца здагадвацца.

**Андрэй Іваненка, дырэктар ФК "Маладзечна":**
– Вядома, трэба. Бо трэніравацца папросту няма дзе. Даводзіцца сем машын запраўляць кожны раз, каб з'ездзіць у Чысць папрэніравацца. А гэта яшчэ і страта гадзіны на дарогу. Добра, я магу пакрыць транспартныя выдаткі. А калі б не мог? Без трэніровак сядзелі б або па крузе бегалі...

**Яўген Каросцік, станочнік:**
– Мне абсалютна ўсё роўна, ёсць штучнае поле ў Маладзечне або яго няма. Няхай футбалісты паказваюць гульню, а якім чынам яны гэта будуць рабіць, мне не важна. Вы яшчэ б спыталіся, ці трэба ў Маладзечне новыя халадзільныя камеры для захоўвання малака.

**Павел Малашка, каментатар матчаў:**
– Вядома, трэба, у кожнай лізе ёсць каманды, палі якіх з розным пакрыццём. Падрыхтоўка да матчаў на такім пакрыцці адыгрывае важную ролю. Яно і для трэніровачнага працэсу каманды ў міжсезонне выдатна падыдзе. Ну, і плюс для аматараў пагуляць у вялікі футбол.

**Дзмітры Каласоўскі, інжынер:**
– Ага, гаворыце вы пра штучнае поле. Аднойчы ж ужо паклаў хтосьці разумны яго ў Чысці. Другі раз такой "халявы" ад федэрацыі не будзе.

**Дзмітры Рухлевіч, адміністратар суполкі "ФК "Маладзечна":**
– Улады горада палічылі патрэбным пакласці пакрыццё ў Чысці, тым самым азадачылі футбольную каманду пошукам транспарту для паездкі на трэніроўкі, а гэта і час, і грошы бюджэту. У Маладзечне ж такое пакрыццё карысталася б попытам на стадыёне нашай ДЮСШ.

**Сяргей Лавор, футбаліст:**
– Вы ў футбаліста пытаеце, ці трэба нам штучнае поле? Канешне, трэба. Ва ўсякім разе, гораду яно больш патрэбнае, чым стадыён для пляжнага валейбола.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1174) 27.10.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1012. Падпісана ў друк у 9.00 26.10.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.